КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 39 (360) ◂ 18 кастрычніка ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



ІЛЬХАМ ТРЭЦІ

Стар. 13

## ЧАМУ ПОЛЬСКІ ЯБЛЫК ТАННЕЙ ЗА БЕЛАРУСКІ?

Намеснік кіраўніка аптовага рынку «Элізувка» Адам Рыхлічак распавёў, што тут імкнуцца прывабліваць коштамі. Менавіта канкурэнцыя дазваляе трымаць нізкія кошты на тавар

Стар. 5

## ВЯРТАННЕ ТЭЎТОНСКАГА ОРДЭНА

Расіяне актыўна намагацца разабрацца, што стаіць за словамі Лукашэнкі: «Калінінград — наша зямля». Прапануем агляд каментараў на расійскіх форумах

Стар. 11

## ВАКАЦЫІ ПРАФЕСАРА НІЛЬСА

Стар. 14–15

ISSN 2218-2144

ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!

## ІГАР ДАБРАЛЮБАЎ: «ВОСЬ ВАМ НА КАЛЕНІ!»

Нарыс Сяргея Шапрана

З НАГОДЫ

# БУДЗЕМ ЖЫЦЬ ПА СРОДКАХ

Сяргей ПУЛЬША

**Беларусі вельмі патрэбныя грошы. Здаецца, нарэшце іх вырашылі пашукаць у сябе. Прынамсі, Нацыянальны банк Беларусі прыняў знешне радыкальны план рэформаў эканомікі, скіраваны на скарачэнне выдаткаў. На паперы адмыслоўцы Нацбанка гатовыя змірыцца з замаруджваннем росту ВУП і перайсці да жорсткай эканоміі. Але наўрад ці гэтыя мары і разлікі спраўдзяцца.**




План прадугледжвае некалькі незвычайных жорсткіх крокаў. Найперш, гэта скарачэнне крэдытавання беларускай эканомікі. Да канца года прадпрыемствы мусяць атрымліваць не больш за 30 трыльёнаў рублёў у месяц (1% прыросту патрабаванняў банкаў да эканомікі ў месяц), а за ўвесь наступны год прырост патрабаванняў банкаў павінен скласці не больш чым 52 трыльёны рублёў. То бок, беларускія прадпрыемствы атрымаюць менш крэдытаў, чым ім хацелася б.

Дарэчы, ва ўрадзе таксама задумаліся над тым, каб завярнуць мадэрнізацыю тых прадпрыемстваў, якія не падпадаюць пад першую хвалю гэтай праграмы.

Другі крок: гэта пошук унутраных грошай. Да канца года краіна мае намер прадаць на ўнутраным рынку аблігацый на 500 мільёнаў долараў. Можа, гэта і рэальна: папярэднія гадавыя валютныя аблігацыі карысталіся попытам у насельніцтва. Да таго ж, улада плануе раскансерваваць праграму IPO — размяшчэнне акцый высокаліквідных ААТ Беларусі на айчынных і замежных біржах. Можа, знойдзецца небарака, які захоча іх прыдбаць, нягледзячы на нашу практыку «залатой акцыі».

Улада таксама шукае грошы ў бюджэт, каб ён атрымаўся бездэфіцытным. Для гэтага частку прыбытку папросяць не толькі ў высокарэнтабельных прадпрыемстваў, але і ў банкаў.

Падатковая рэформа адкладаецца на лета наступнага года. Плануецца разгледзець пытанне аб увядзенні адзінага падатку на маёмасць, перайсці да выплаты падатку на нерухомасць у залежнасці ад рэальнага кошту аб’екта, а таксама скараціць некаторыя льготы па падатках.

Ёсць у плане Нацбанка і яшчэ некалькі прапановаў, кшталту павышэння пенсійнага ўзросту, продажу ўчасткаў пад катэджы на 50 мільёнаў долараў ды іншыя.

А яшчэ ёсць цікавая сумесная пастанова ўрада і Нацбанка пра тое, каб у 2014 годзе атрымаць да 4,5 мільярда долараў ад прыватызацыі аб’ектаў дзяржуласнасці стратэгічнымі інвестарамі.

Калі разбіраць гэты план па костках, то, насамрэч, мы ўбачым, што тут, па-першае, няма нічога новага, а па-другое, на вялікі жаль, па сродках мы жыць не будзем. Бо план складзены для «знешняга карыстальніка» — з гэтым планам урад і Нацбанк маюць намер пачаць перамовы аб выдзяленні новага крэдыту МВФ. І падаецца, што мы гэта ўжо праходзілі не далей, як у 2010 годзе.

Выконваць план можна лёгка. Узяць хаця б такі момант, як дзяржаўнае скарачэнне крэдытавання эканомікі. Яго можна згарнуць хоць зараз, і да нуля, але ад гэтага нічога не зменіцца. Бо ў 2011 годзе быў заснаваны Банк развіцця: фармальна адкрытае акцыянернае таварыства, якое створана ў адпаведнасці з указам прэзідэнта Беларусі. Асноўнай функцыяй гэтага банка з’яўляецца фінансаванне інвестыцыйных праектаў, а таксама крэдытаванне дзяржаўных праграм. То бок, калі банк развіцця і крэдытуе праграму мадэрнізацыі і сельскую гаспадарку, то фармальна дзяржава не мае да гэтага дачынення. Гэта ААТ «Банк развіцця» закопвае грошы, а не ўрад.

Пра аблігацыі і IPO шмат ужо казалі. З першымі ўсё зразумела, што ж тычыцца IPO, то мы праводзім такую падрыхтоўку з 2010 года, і ўсё дарэмна. Вядома, чаму дарэмна, бо першы крок да IPO — гэта правядзенне незалежнай і празрыстай праверкі прадпрыемства са справаздачай па міжнародных стандартах. Другі крок — увядзенне незалежнага назіральнага савета і савета дырэктараў. Ужо на гэтых двух этапах місію можна лічыць праваленай.

Папрасіць грошы ў суб’ектаў гаспадаркі на бездэфіцытны бюджэт, зноўку падаіць прадпрымальнікаў, адкласці падатковую рэформу — з гэтым праблемаў не будзе. Але з прадпрымальнікаў шмат ужо не выціснеш, а ў банкаў і без бюджэту крызіс ліквіднасці — стаўка па аднадзённых рублёвых міжбанкаўскіх крэдытах скача з 40 да 80%. Так што багата грошай наўрад ці набярэцца. А калі і набярэцца, то ў шкоду той жа эканоміцы.

І асаблівая песня — гэта прыватызацыя. Ужо гадоў пяць у нас планы пра тое, што ад прыватызацыі мы павінны атрымаць ад 2,5 мільярда да 5 мільярдаў долараў штогод. А атрымліваем — кату па пяту. Да таго ж Аляксандр Лукашэнка ў мінулую пятніцу на сустрэчы з расійскімі журналістамі ясна сказаў: распродажу прадпрыемстваў не будзе. Не будзе нават стварэння даўно замоўленых холдынгаў кшталту «МАЗ — КамАЗ». Пра якую прыватызацыю можна казаць?

Уся гэтая гульня з праграмамі эканоміі скіравана толькі на МВФ — ім можна паабяцаць усё, што заўгодна для атрымання чарговага крэдыту. І, па прынцыпе фінансавай піраміды, новым крэдытам разлічыцца за старыя запазычанасці. А заадно і падтрымаць «беларускую стабільнасць», якая ўсім ужо надакучыла, у 2014 — пачатку 2015 года.

Трэба памятаць, што казаў Аляксандр Лукашэнка ў 2010 годзе. А тады ён казаў, што не Расія выратавала Беларусь. Беларусь пасля дэвальвацыі 2009 года выратаваў МВФ, прадаставіўшы крэдыт, які нам зараз і трэба аддаваць. За кошт гэтага — падкрэслім, заходняга, — крэдыту і быў забяспечаны подкуп выбаршчыкаў заробкам у 500 долараў, ростам тарыфаў ЖКГ толькі ў 5% і іншымі рэчамі, якія называюць «сацыяльным кантрактам». Пусціўшы крэдыт МВФ на праяданне замест мадэрнізацыі эканомікі, улада забяспечыла абранне ў 2010 годзе Аляксандра Лукашэнкі на чарговы прэзідэнцкі тэрмін, і, адпаведна, дэвальвацыю 2011 года.

Так што новы план эканоміі і беражлівасці — зусім не новы. Гэта проста адзін у адзін паўтарэнне сцэнару 2010 года. Мы просім грошы ў МВФ ізноў на эканамічныя рэформы, а пойдуць яны ў 2014 годзе зноў на тое, каб забяспечыць пераабранне Аляксандра Лукашэнкі ў 2015-м.

Цікава, ці падзякуе за гэта МВФ Аляксандр Рыгоравіч у 2015 годзе, як ён дзякаваў у 2010-м? І ці будуць у нас наступствы гэтага ў 2016-м, як былі ў 2011-м?

▸ ПРАЦОЎНЫЯ

# ДЗВЕ ТЫСЯЧЫ ЗАЯЎ НА ЗВАЛЬНЕННЕ

**Рабочыя Беларускага металургічнага завода чакаюць пачатку наступнага года, каб сысці з завода.**

На працягу дзевяці месяцаў яны не атрымлівалі прэмій, а зарплата, па сутнасці, была замарожаная на ўзроўні 2012 года. Узнікла сітуацыя, пры якой склады Беларускага металургічнага завода былі заваленыя гатовай прадукцыяй, якую няма куды збываць.

Беларускі металургічны завод пасля падрыхтоўкі і правядзення рэспубліканскіх «Дажынак», здаецца, паступова прыходзіць у сябе.

Як вядома, славутыя 1,2 трыльёна рублёў, выдаткаваныя на фестываль, пайшлі не толькі з абласнога бюджэту, але і з кашалькоў простых рабацяг галоўнага металургічнага гіганта краіны. Па дадзеных Камітэта дзяржкантролю, паходжанне гэтых грошай — не таямніца: палова з іх былі ўзятыя за кошт крэдытаў і з рахункаў мясцовых арганізацый.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Сёння на ўсю моц на БМЗ будуецца новы драбнагатункавы драцяны стан, ідзе рэканструкцыя сталеплавільных печаў. У канцы зімы СМІ паведамлялі, што на тэрыторыі плошчай 12 гектараў размесцяцца драцяны стан, сем вытворчых участкаў, лініі вытворчасці катанкі і пруткоў, а таксама адміністрацыйна-бытавы будынак, склады, лабараторыя, вальцатакарная майстэрня, кампрэсарная станцыя, водападрыхтоўка. На ўсё гэта Еўразійскі банк развіцця і «Беларусбанк» выдзелілі пад гарантыю ўрада каля 280 мільёнаў еўра. А агульны аб'ём работ складае 326 мільёнаў еўра.

Да таго ж склалася сітуацыя, пры якой завод быў завалены гатовай прадукцыяй. І ў той час, калі, па розных дадзеных, у аддзеле кадраў ляжала ад двух да трох тысяч заяў на звальненне, дзяржаўныя СМІ, у тым ліку прэс-служба прадпрыемства, адрапартавалі на ўсю краіну аб поспехах на заводзе.

«Я папрацаваў на БМЗ амаль дзесяць гадоў, і нават падчас крызісу 2011 года, калі адбылася трохразовая дэвальвацыя нацыянальнай валюты, мы пратрымаліся за кошт таго, што нам хоць і патроху, але павышалі зарплаты. Улетку гэтага года я паспрабаваў перавесціся ў іншы цэх, каб павысіць разрад і атрымліваць больш высокую зарплату, але маё начальства заявіла, што нікога нікуды не пераводзяць. Тады я і многія мае калегі паклалі на стол заявы пра сыход, каб мы маглі паехаць у Расію і хоць бы трохі зарабіць грашанят для нашых сем'яў. Нам, натуральна, адмовілі, спасылаўшыся на тое, што па кантракце я павінен адпрацаваць да канца года. І так сотні людзей, якія чакаюць 1 студзеня, каб сысці з заводу», — заявіў рабочы Уладзімір.

Паводле яго слоў, нават сталеварам, якія заўсёды атрымлівалі прыстойныя зарплаты, цяпер плацяць па 6–8 мільёнаў, што зусім не параўнальна з той шкоднай вытворчасцю, на якой яны працуюць кожны дзень.

Улічваючы сітуацыю, якая склалася, верагодна, пасля таго, як грошы банкаў паступілі на рахунак, які доўгі час пуставаў, рабочых вырашылі трохі папесціць і пачалі выдаваць прэмію — упершыню за доўгія месяцы.

«Далі ў гэтым месяцы па 500 тысяч. Але хіба гэта грошы?» — кажа Аляксей, які працуе ў адным з цэхаў БМЗ.

**Паводле camarade.biz**

▸ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ІНВАЛІДА ПАЗБАВІЛІ САЦЫЯЛЬНАГА ЖЫЛЛЯ

**Віцебскі гарвыканкам адмовіўся ўнесці ў асобныя спісы на атрыманне жылога памяшкання сацыяльнага карыстання інваліда II групы Валера Міснікава.**

Прычынай стала даведка пра месца жыхарства і склад сям'і, выдадзеная Міснікаву разліковым цэнтрам №4 дзяржаўнага прадпрыемства «ЖРЭТ Першамайскага раёну».

Згодна з дзейным заканадаўствам, непрацуючыя адзінокія інваліды І і ІІ груп, якія стаяць на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, маюць права на атрыманне жылога памяшкання сацыяльнага карыстання.

Валер Міснікаў, без усялякіх сумневаў, належыць да гэтай вызначанай заканадаўствам катэгорыі грамадзян: у цяперашні час ён адзін пражывае ў адымным пакоі, нідзе не працуе і мае толькі адну крыніцу даходу — пенсію.

Былая жонка і двое яго паўнагадовых дзяцей доўгія гады жывуць асобна, не вядуць з Валерам сумесную гаспадарку, не падтрымліваюць яго ані маральна, ані матэрыяльна. Міснікаў лічыць сябе грамадзянінам, якія пражывае самотна, і былым членам сям'і, што, здавалася б, мусіць дазволіць яму атрымаць сацыяльнае жытло.

Але ў даведцы, што В. Міснікаў зарэгістраваны і пражывае ў кватэры сумесна з былой жонкай і мае сям'ю ў складзе чатырох чалавек. Гэта значыць, згодна з даведкай, Міснікаў зусім не адзінокі грамадзянін, а муж і бацька, якім апякуюцца жонка і дзеці. На падставе выдадзенага ЖРЭТам дакументу, Віцебскі гарвыканкам адмовіў Міснікаву ў залічэнні яго ў спісы на атрыманне сацыяльнага жытла.

Па абарону сваіх правоў і законных інтарэсаў Валер Міснікаў звярнуўся ў суд Першамайскага раёну Віцебску з іскам аб прызнанні несапраўднай даведкі ЖРЭТу і надзяленнем яго статусам адзінокага грамадзяніна і статусам былога члена сям'і. Аднак суддзя Наталля Броўка адмовіла Міснікаву ў задавальненні яго патрабаванняў.

Яна палічыла, што аргументы праваабаронцы непераканаўчыя, а паказанні сведак пра яго фактычнае адзінокае пражыванне не заснаваныя на нормах заканадаўства.

Зварот да памочніка прэзідэнта краіны, галоўнага інспектара па Віцебскай вобласці Дамашкевіча не даў плёну. Па даручэнні Дамашкевіча ў справе разбіраўся кіраўнік спраў Віцебскага аблвыканкаму Аляксей Мацюшка. Апошні паведаміў: «Факт пражывання ў адным з вамі населеным пункце (г. Віцебску) вашых працаздольных дзяцей, якія паўплывалі на прыняцце Віцебскім гарвыканкамам рашэння аб адмове ва ўключэнні вас у асобныя спісы на атрыманне жылога памяшкання сацыяльнага карыстання, пацвярджаецца даведкай ад 23 сакавіка 2012 г. № 791 аб месцы жыхарства і аб складзе сям'і, выдадзенай разліковым цэнтрам № 4 дзяржаўнага прадпрыемства «ЖРЭТ Першамайскага раёна». Дакументальнае пацверджанне гэтага факту і прынятае на яго падставе адміністрацыйнае рашэнне не цягне прысвоення вам якога-небудзь прававога статусу не ўпаўнаважанай на гэта службовай асобай. Такім чынам, дэклараваныя вамі «парушэнні нарматыўных актаў», якія прывялі да ўшчамлення вашых правоў і законных інтарэсаў, не знайшлі пацверджання, падставы для прыняцця мер рэагавання адсутнічаюць».

**Паводле vitebskspring.org**

▸ КОНКУРС

# УГАНАРАВАЛІ НАРОДНЫХ ЖУРНАЛІСТАЎ

**Марат ГАРАВЫ**

**У Мазыры ўганаравалі лаўрэатаў конкурсу «Народны журналіст». Павіншаваць Дзяніса Рабянка з Калінкавічаў і Уладзіміра Целепуна з Мазыра прыехаў Вінцук Вячорка і сябры журы.**

Вячорка паведаміў, што пераможцамі конкурсу сталі аўтар тэкстаў пра аграгарадкі Мікола Бусел з вёскі Дуброва Светлагорскага раёну Гомельскай вобласці, Дзяніс Рабянок за артыкул «Даўгабуд, як прыкмета «сильной и процветающей» Беларусі», а таксама Аляксей Каваленка з Гомелю за матэрыял «Несалодкае жыццё беларускіх дыябетыкаў». Праца Уладзіміра Целепуна «Мазыр — пацёмкінскі горад»… Прайшоў год» заняла пятае месца. Дарэчы, гэтая праца з'яўляецца працягам тэксту, прадстаўленага на мінулагодні конкурс, дзе аўтар стаў адным з пераможцаў.

У сваім артыкуле Дзяніс Рабянок распавядае, як у будоўлю дзесяцігоддзя ператварылася ўзвядзенне звычайнай спартыўнай залы ў самай вялікай калінкавіцкай школе №1. З-за сваёй грамадзянскай пазіцыі і актыўнай грамадскай дзейнасці Дзяніс Рабянок, які пры заканчэнні педуніверсітэта атрымаў дыплом з адзнакай, не можа ўладкавацца на працу па абранай спецыяльнасці настаўніка-філолага. І гэта адбываецца ў краіне з вострым недахопам настаўнікаў-мужчын. Апроч таго, у біяграфіі маладога чалавека шмат іншых фактаў уціску і рэпрэсій: адміністрацыйны арышт, штрафы і напад з ужываннем газавага балончыку, у выніку чаго Дзяніс Рабянок атрымаў апёк вачэй.

Такая ж біяграфія і ў праваабаронцы Уладзіміра Целепуна — былога інжынера мясцовага кабельнага заводу, дзе ён адпрацаваў 34 гады ад рабочага да начальніка аддзелу. Былога — таму што ў 2010 годзе кіраўніцтва прадпрыемства без усялякага тлумачэння прычынаў не працягнула з ім кантракт. І дагэтуль Уладзімір Целяпун аніяк не можа ўладкавацца на працу.

У сваім артыкуле праваабаронца ўздымае праблему роўнасці правоў грамадзянаў на адпаведнае бюджэтнае фінансаванне іх сацыяльных патрэбаў, што далёка не заўсёды адбываецца.

▸ СВІНСКАЯ СПРАВА

# ПЕРАМОГА Ў СПРАВЕ АЧС

**У Бярозаўскім райвыканкаме 16 кастрычніка адбылося пасяджэнне адміністратыўнай камісіі ў справе жыхара вёскі Кабакі Аляксандра Аліхвера, які адмовіўся знішчаць сваіх свінняў насуперак патрабаванням уладаў.**

Заручыўшыся моцнай падтрымкай мясцовых жыхароў і законамі, фермер здолеў дасягнуць пэўнай перамогі — камісія пастанавіла даслаць матэрыялы справы на дапрацоўку, а не аштрафавала селяніна ці якімсьці чынам яго пакарала, паведаміў прэсавай службе БХД удзельнік працэсу Валер Білібуха.

Гэтая справа цягнецца яшчэ са жніўня, калі Бярозаўскі райвыканкам пастанавіў вынішчыць усіх свінняў у радыусе пяці кіламетраў ад мясцовага свінакомплексу камбікормавага заводу. Аднак гэтая пастанова не была нідзе апублікаваная, усё рабілася таемна. Больш за тое, у Бярозаўскім раёне эпідэмія АЧС абвешчаная не была, ані ў якія зоны ён не трапляў, дадае мясцовы грамадскі актывіст Анатоль Сахаруша.

Кіруючыся гэтым, фермер Аляксандр Аліхвер адмовіўся знішчаць больш за сотню сваіх свінняў. У сувязі з гэтым супраць яго і была распачатая справа. Аднак пакуль перамога на баку сялян. Змаганне працягваецца.

Адзначым, што некаторыя з сялян, якія, паслухаўшыся патрабаванняў уладаў, забілі сваіх свінняў, зараз пішуць даносы на тых, хто гэтага не зрабіў.

**Прэсавая служба БХД**

▸ ПРАФСАЮЗЫ

# ГАЛАДОЎКА НА МАЗЫРСКІМ НПЗ

**З 14 кастрычніка Юры Швец — лідар Беларускага незалежнага прафсаюза Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода — галадае на працоўным месцы.**

Юры Швец абвясціў галадоўку пасля несправядлівага звальнення пецярых актывістаў БНП, з якімі не прадоўжылі тэрміновыя працоўныя кантракты. Ціск на сябраў альтэрнатыўнага прафсаюза з боку адміністрацыі не спыняецца з 2008 года.

«Ціск на незалежны прафсаюз ужо цягнецца доўгі час. Не ведаю, чым кіруецца адміністрацыя завода, спрабуючы ліквідаваць гэты прафсаюз. Думаю, гэта звязана з тым, што на месца намесніка гендырэктара прыйшоў Генадзь Цецярук, які раней узначальваў Мазырскі гарадскі аддзел КДБ. Мабыць, свае навыкі працы ён пераносіць і на прадпрыемства. Ідзе зачыстка, працаўнікоў запалохваюць, каб яны выходзілі з прафсаюза, — каментуе мазырскі праваабаронца Уладзімір Целяпун. — Думаю, што гэта небяспечная гульня. З-за сітуацыі з прафсаюзамі могуць распачацца эканамічныя санкцыі ў дачыненні да прадпрыемства».

Прафсаюзны лідар да 18 гадзін галадае на працоўным месцы, а пасля перамяшчаецца ў машыну, прыпаркаваную каля заводу, дзе і начуе.

Першая рэакцыя на галадоўку ўжо ёсць. «Учора стала вядома, што ў канцэрне «Белнафтахім» вырашылі перанесці сустрэчу з прадстаўнікамі незалежнага прафсаюза, — кажа Юры Швец. — Яны збіраюць усе дакументы, кажуць, што жадаюць вывучыць іх дасканала, каб разабрацца ў нашых праблемах».

Да 17 кастрычніка разам са Швецам галадаў яго намеснік Васіль Альхоўскі. Юры Швец плануе спыніць акцыю ў суботу, 19 кастрычніка.

**Паводле spring96.org**
**gazetaby.com**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ТРЭБА НАВОДЗІЦЬ ПАРАДАК!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**От ужо гэтыя дыпламаты! Калі і накіруюць запрашэнне, дык так, што хоць стой, хоць падай. Але, падаецца, у Беларусі і так шмат праблемаў, якія не патрабуюць выезду за мяжу. Разбірацца з імі даводзіцца Аляксандру Лукашэнку — больш, здаецца, няма каму.**



Беларусь атрымала запрашэнне на саміт Усходняга партнёрства ў Вільні. «Запрашэнні — для дзяржаў, а не для канкрэтнай афіцыйнай асобы», — паведаміў аддзел грамадскага інфармавання МЗС Літвы ў адказ на пытанне, ці запрошаны Лукашэнка на саміт. Гэтае «бяспрозвішчнае» запрашэнне азначае, што вырашаць, хто паедзе на саміт, будзе персанальна Аляксандр Рыгоравіч. Хадзілі розныя чуткі — напрыклад, што на сустрэчу паедзе ён сам. Але такім запрашэннем неяк перакрэсліваецца ягоны ўдзел: накіроўваць на саміт самога сябе — неяк «не камільфо». Такім чынам еўрапейскія дыпламаты ненавязліва пацвердзілі ягоны статус «неўязднога» ў краіны Еўрасаюза.

Дый навошта яму туды ехаць? Галоўныя пытанні мерапрыемства — падпісанне дамовы аб асацыяваным сяброўстве ў ЕС і аб свабодным гандлі з Украінай, а таксама парафаванне аналагічных дамоў з Малдовай і Грузіяй. Беларусь тут — ні вухам, ні рылам.

У нас і сваіх праблемаў хапае. Скандал з затрыманнем топ-менеджара «Уралкалія» Уладзіслава Баўмгертнера ўвайшоў у тэхнічную фазу. Лукашэнка на прэс-канферэнцыі для расійскіх журналістаў 11 кастрычніка распавёў, які кепскі Баўмгертнер. Тым часам расійскія следчыя органы нібыта атрымалі ад беларусаў матэрыялы крымінальнай справы і завялі сваё расследаванне. Адначасова яны загаварылі пра экстрадыцыю топ-менеджара на радзіму.

Паведамлялася, што Следчы камітэт Расіі па матэрыялах ад беларускіх калегаў распачаў супраць старшыні назіральнага савета ЗАТ «Беларуская калійная кампанія» і гендырэктара ААТ «Уралкалій» Уладзіслава Баўмгертнера і былога першага намесніка кіраўніка ЗАТ «Беларуская калійная кампанія» Канстанціна Саладоўнікава крымінальную справу па ч. 2 арт 201 КК РФ (Злоўжыванне паўнамоцтвамі). Па версіі следства, яны «злоўжывалі сваімі паўнамоцтвамі, выкарыстоўваючы іх насуперак законным інтарэсам гэтых арганізацый і ў мэтах здабывання выгод і пераваг для іншых асоб, што пацягнула прычыненне істотнай шкоды і цяжкія наступствы для Беларускай калійнай кампаніі (БКК) і «Беларуськалія».

Але Следчы камітэт Беларусі пакуль не атрымаў пацвярджэння ад расійскіх калег пра распачацце супраць Баўмгертнера крымінальнай справы, таму лічыць пытанне аб яго выдачы «не вырашаным». «Дамоўленасць аб тым, што менавіта Расія будзе расследаваць справу Баўмгертнера, пакуль не дасягнута. Вы спяшаецеся са справай Баўмгертнера — справа пакуль застаецца ў Рэспубліцы Беларусь», — паведаміў афіцыйны прадстаўнік СК РБ Павел Траўлька.

А пакуль мы трымаемся за Баўмгертнера, Дзярждума Расіі ўвяла з 1 студзеня 2014 года ўтылізацыйны збор з расійскіх аўтамабіляў, у тым ліку з Калінінградскай вобласці, Беларусі і Казахстана. Адпаведны законапраект быў прыняты расійскімі дэпутатамі 15 кастрычніка адразу ў другім і ў трэцім, канчатковым, чытанні.

Такім чынам, абавязацельства па выплаце ўтылізацыйнага збору усталёўваецца ў Расіі для ўсіх удзельнікаў рынка: як для расійскіх аўтавытворцаў, так і для імпарцёраў з трэціх краін, а таксама для прадпрыемстваў з краін Мытнага саюза, якія пастаўляюць прадукцыю на расійскі рынак. У чарговы раз «патрапілі пад раздачу» МАЗ, «Амкадор» і беларускія камбайны.

Цяпер базавая стаўка збору для легкавых аўтамабіляў складае 20 тысяч расійскіх рублёў, а для грузавікоў — 150 тысяч расійскіх рублёў. Здавалася б, пры чым тут Баўмгертнер?

Не ўсё у нас нармальна і з хакеем. У аўторак прэзідэнт Беларусі правёў нараду, прысвечаную пытанням падрыхтоўкі і правядзення чэмпіянату свету па хакеі 2014 года ў Мінску. Аказалася, што чэмпіянатаўскія аб'екты проста не гатовыя. Лукашэнка быў вельмі незадаволены тым, што тэрміны здачы «Чыжоўка–Арэны» зацягваюцца. Старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька казаў, што да 7 лістапада, калі аб'ект павінен быць здадзены, увядуць толькі «першы пускавы комплекс». Цалкам арэну павінны здаць у эксплуатацыю толькі да 15 снежня.

«Вы мне тройчы абяцалі здаць аб'ект да 7 лістапада і не выканалі абяцанні! Мы ж ужо пераносілі тэрміны! І прыдумалі нейкія пускавыя комплексы!» — абурыўся Лукашэнка.

Абурацца ёсць чаго. Па меркаванні Аляксандра Рыгоравіча, гэта «сур'ёзнае эканамічнае мерапрыемства», і яно павінна прынесці «сур'ёзную фінансавую аддачу». А інакш без спартыўнай валюты нам труба.

Да таго ж і імідж Беларусі як хакейнай дзяржавы павінен быць захаваны і ўзмоцнены. «Нам патрэбна гульня, а не боўтанне па хвалях: там выйгралі, там прайгралі, там крылы апусцілі. Немагчыма глядзець часам на некаторыя гульні! Таму працуйце з камандай: не толькі з трэнерамі, але і гульцамі», — заявіў Аляксандр Лукашэнка, і даручыў стварыць каманду, у якую будуць адабраныя найлепшыя гульцы.

А калі гэтага зроблена не будзе, то спартоўцам проста не дадуць грошай. «Трэба наводзіць парадак! Грошы павінны ісці тым, хто непасрэдна прыносіць карысць, хто змагаецца, хто скача, хто бегае», — адзначыў Лукашэнка.

Шкада толькі шахматыстаў, якія не скачуць і не бегаюць. Пэўна, яны першыя на вылет з дзяржфінансавання.

А ў дасягненні «сур'ёзнай фінансавай аддачы» ад Чэмпіянату свету па хакеі нам, як ні дзіўна, дапамагла Польшча. Міністэрства замежных спраў і Міністэрства ўнутраных спраў Польшчы падтрымалі ініцыятыву партала Port Europa, які дамагаўся пешых пераходаў на мяжы. Пешкі перайсці беларуска-польскую мяжу ў Кузніцы можна будзе ўжо гэтай восенню. У Палаўцах, праўда, такі пераход можна будзе ажыццявіць у 2015 годзе. На гэтыя мэты ўжо выдзелены сродкі — 900 тысяч злотых (каля 300 тысяч долараў).

А вось чакаць пешага пераходу на памежным пераходзе ў Баброўніках прыйдзецца доўга. Мост на мяжы вельмі вузкі, і для такога пераходу папросту няма месца. Давядзецца будаваць новы мост, і перамовы пра гэта ўжо ідуць паміж Польшчай і Беларуссю.

Так што чакаем пешых палякаў на ЧМ-2014.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### ПАВЕЛ СЕВЯРЫНЕЦ

19 кастрычніка скончыўся тэрмін абмежавання волі Паўла Севярынца. Нагадаем, палітык і публіцыст быў арыштаваны на выхадзе з Плошчы Незалежнасці ў ноч з 19 на 20 снежня 2010 года, пяць месяцаў правёў у СІЗА КДБ, а 16 мая 2011-га быў асуджаны да трох гадоў абмежавання волі за нібыта арганізацыю масавых беспарадкаў.

За два з паловай гады, якія Павел Севярынец быў вымушаны сядзець на так званай «хіміі» ў вёсцы Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці, яго наведалі каля тысячы чалавек: журналісты, праваабаронцы, дыпламаты, паплечнікі і сябры.

Па словах палітыка, адсідка была для яго асаблівым духоўным падарожжам. «Гэта быў момант, калі ў мяне з'явіўся дадатковы час на разважанні, малітвы, чытанне літаратуры, заняткі спортам. Таму дзякуй Богу за Куплін. Акрамя гэтага, за два з паловай гады я атрымаў больш чым 2 500 лістоў — фактычна, па тысячы ў год. На ўсе з іх, дзе быў зваротны адрас, я стараўся адказаць. І я вельмі ўдзячны тым людзям з Пружан, Бярозы, Кобрына, Брэста і Мінска, якія ўвесь гэты час мне дапамагалі», — распавёў Севярынец.

Паводле яго слоў, гэта быў беспрэцэдэнтны марафон салідарнасці, падчас якога ён ніколі не адчуваў сябе пакінутым без увагі. «Часам такая ўвага сяброў нават трохі напружвала адміністрацыю папраўчай установы, але з ёй у мяне таксама склаліся нармальныя адносіны. Яшчэ мая адсідка — гэта кніга «Беларуская глыбіня». Восемдзесят пяць эсэ, якія публікавала газета «Наша Ніва». Калі выйду з «хіміі», адразу пачну рыхтаваць яе да друку. Спадзяюся выдаць яе на працягу некалькіх месяцаў», — падзяліўся планамі Севярынец.

### АНАТОЛЬ ЧОРНЫ



Былога першага намесніка старшыні Магілёўскага аблвыканкама Анатоля Чорнага не назавеш шчаслівым, нягледзячы на тое, што Аляксандр Лукашэнка прызначыў яго міністрам архітэктуры і будаўніцтва. Проста таму, што гэтая пасада цяпер — пасада хлопчыка для біцця.

Лукашэнка не хавае: ён незадаволены станам будаўнічай галіны. «Мы дамовіліся, што працуем па прынцыпу: выявілі праблему, пазначылі яе і неадкладна яе вырашылі. Прытым жалезна і жорсткім чынам. Таму што гэтая праблема ўжо зашкальвае. Насельніцтва вельмі незадаволенае, асабліва тым, хто вядзе будаўніцтва, прад'яўляе абгрунтаваныя скаргі. Гэта ненармальна, недапушчальна», — казаў Лукашэнка.

«Убачылі ў СМІ нейкі зварот групы нашых грамадзян або пачулі пра гэта — неадкладна праверылі. Калі хтосьці не выпраўляе — дадзена каманда праваахоўным органам: кайданкі — і ў камеру. І няхай тады думаюць, як працаваць з народам», — заявіў Лукашэнка.

Папярэдні міністр архітэктуры і будаўніцтва Беларусі Анатоль Нічкасаў быў прызначаны паслом у Казахстан. За ўсе недапрацоўкі, аж да камеры, давядзецца адказваць ні ў чым не вінаватаму новаму міністру.

### ВІКТАР ГАНЧАРЭНКА



Легенда беларускага футбола, галоўны трэнер БАТЭ, пад кіраўніцтвам якога клуб з Барысава аформіў пяць чэмпіёнскіх тытулаў, выйграў Кубак Беларусі і двойчы Суперкубак краіны, і ў мінулым сезоне стаў адзінай камандай, якой атрымалася перайграць мюнхенскую «Баварыю» ў Лізе чэмпіёнаў, перайшоў на працу ў краснадарскую «Кубань». Ён стаў новым галоўным трэнерам «Кубані» і падпісаў кантракт на 4,5 гады.

Ганчарэнку заўважылі даўно. У розныя часы яго сваталі ў маскоўскі «Лакаматыў», у маскоўскае ж ЦСКА, Ганчарэнка адмовіўся ўзначаліць львоўскія «Карпаты»... Але цяпер Ганчарэнка зразумеў, што БАТЭ ён перарос — трэба ісці далей. «Гэта — новы выклік для мяне», — заявіў Ганчарэнка пра «Кубань».

Выклік сур'ёзны. «Кубань» патрабуе ад трэнера «ўсяго і адразу», часу на распрацоўку не дае. За чатыры апошнія гады Ганчарэнка стане 12-м галоўным трэнерам краснадарцаў. Ні з кім з ягоных папярэднікаў у клубе асабліва не цырымоніліся, прытрымліваючыся прынцыпу: няма выніку — няма кантракту. І нікому часу разварушыцца не давалі — адразу патрабавалі вынік.

Магчыма, дарэчы, Ганчарэнка — гэта не апошняя страта футбола Беларусі. Паўабаронца БАТЭ Аляксандр Глеб у эксклюзіўным інтэрв'ю расійскім «Известиям» заявіў, што таксама можа пайсці ўслед за трэнерам. «Калі Віктар Міхайлавіч пакліча, то я прыму гэтую прапанову. Працаваць з ім заўсёды прыемна і цікава», — сказаў Глеб.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ САВЕЦКАГА ЧАЛАВЕКА

Сяргей НІКАЛЮК




**Падчас сустрэчы з расійскімі журналістамі кіраўнік дзяржавы пацвердзіў, што Беларусь працягвае рухацца ў правільным накірунку. Аднак ці то радавацца з гэтай нагоды, ці то засмучацца...**

Пачну з цытаты з кнігі псіхолага Нары Ньюкамб: «Развіццё асобы дзіцяці»: «Менавіта інтэрпрэтацыя, а не сама падзея, уздзейнічае на паводзіны».

У якасці ілюстрацыі такога рашучага сцвярджэння прапаную звярнуцца да Белавежскай дамовы. У тым, што яна з'яўляецца падзеяй сусветнага маштабу, сумнявацца не даводзіцца, але з якім знакам яе варта ацэньваць?

Для галоўнага персанажа маёй «Азбукі паліталогіі» Белавежская дамова і распад СССР, які за ёй надышоў, — «найвялікшая геапалітычная катастрофа XX стагоддзя». Такая вось інтэрпрэтацыя, і яна спараджае адпаведныя паводзіны, якія выліліся, у прыватнасці, у прапанову *«огородить место встречи руководителей республик СССР, подписавших документы о прекращении существования Советского Союза, колючей проволокой»*.

Зразумела, такую інтэрпрэтацыю падзяляюць далёка не ўсе. Асабіста я, напрыклад, успрымаю падобную прапанову як спробу захаваць калючы дрот па ўсім перыметры «дзяржавы рабочых і сялян».

Адмыслоўцы ў галіне кагнітыўнага аналізу сцвярджаюць, што ўсе мы бачым навакольны свет пэўным чынам, і з гэтай прычыны нашы дзеянні таксама пэўным чынам структураваныя. Правільным будзе і адваротнае сцвярджэнне: лад нашых дзеянняў уплывае на карціну свету.

Структуры мыслення і дзеянняў здольныя з часам змяняцца. У маёй першай жонкі, паводле яе ўласнага прызнання, было шчаслівае дзяцінства. Крыніцай шчасця выступала ўсведамленне, што ёй пашчасціла нарадзіцца ў СССР, а не ў Амерыцы. Але СССР распаўся, у калючым дроце з'явіліся прагалы, і мая жонка (якая да таго часу займела прыстаўку «экс») змяніла дыплом лекара на ліцэнзію медсястры і запазычанасць у паўмільёна долараў за дамок з чатырма спальнямі ў штаце Нью-Джэрсі.

Аднак на метамарфозы такога ўзроўню здольны далёка не кожны. У лістападзе 1993 года за аднаўленне СССР выказваліся 55% беларусаў. За дваццаць гадоў колькасць ахвочых здзейсніць come back to USSR скарацілася да 22% (НІСЭПД). Але пастаўце беларусаў перад выбарам: лічыць сябе савецкімі ці сучасным еўрапейскімі людзьмі — і яны падзеляцца на дзве прыкладна роўныя групы.

Да першай групы далучае сябе і адзіны беларускі палітык (АП). 11 кастрычніка ў гэтай якасці ён пяць з паловай гадзін адказваў на пытанні расійскіх журналістаў.

## Крэатыўная нявызначанасць

Аб'ём «Азбукі паліталогіі» вымушае мяне абмежавацца апісаннем толькі асноўных характарыстык савецкага чалавека (СЧ), сацыяльны тып якога паранейшаму шырока прадстаўлены ў Беларусі.

Свядомасць СЧ і ў XXI стагоддзі (адукацыя тут нічога не мяняе), застаецца пераважна традыцыяналісцкай. Для чалавека з такой свядомасцю выпрабаванне нявызначанасцю — невыноснае. Нявызначанасць прыгнятае і спараджае адчуванне хаосу.

Звернемся да аднаго з базавых інстытутаў сучаснасці — рынку. Ён кіруецца «нябачнай рукой», а не канкрэтнай рукой кіраўніка дзяржавы, і ўжо таму з'яўляецца для СЧ генератарам нявызначанасці. Адсюль уяўленне пра рынкавую эканоміку як пра *«эту неразбериху»*. Адсюль жа паходзіць непрыманне галоўнага суб'екта рынкавай эканомікі — прыватніка *(«Я уже наелся этих частников»)*. Рынак не ўпісваецца ў звыклую для СЧ карціну свету, у якой няма месца для асабістых інтарэсаў, не санкцыянаваных дзяржавай. І гэты прынцып распаўсюджваецца як на падначаленых, так і на начальнікаў.

*«Да, мы, славяне, православные люди,* — сцвярджае АП, — *у нас совершенно иная политика, другие подходы, нутро, душа совершенно другая»*. Зусім іншая душа — гэта душа, якая не прымае дэмакратыю як працэдуру, што не гарантуе пэўнага выніку.

Больш за два стагоддзі таму Бенджамін Франклін, адзін з бацькоў-заснавальнікаў ЗША, даў наступнае вызначэнне дэмакратыі: «Дэмакратыя — гэта дамоўленасць узброеных джэнтльменаў пра правілы паводзін». Звярніце ўвагу: узброеныя джэнтльмены дамаўляюцца не пра падзел уладных паўнамоцтваў і не пра падзел уласнасці. Яны дамаўляюцца пра правілы паводзін. Факт наяўнасці зброі ў кожнага з бакоў служыць гарантыяй справядлівасці правіл і адначасова гарантыяй іх выканання ў будучыні.

Але прыняцце падобных правіл азначае згоду на нявызначанасць. А дзе ёсць нявызначанасць — там з'яўляецца і шанец на развіццё. Гэта не парадокс, гэта аксіёма, якую пацвярджае жыццё ў штодзённым рэжыме. Сацыёлаг Георгій Сатараў каментуе яе наступным чынам: «Уся гісторыя цывілізацый — гэта пошук спосабу гульні з непрадказальнай будучыняй. Зразумела, мы з тэорыі гульняў гэта ведаем, што калі ты гуляеш супраць суперніка з выпадковай стратэгіяй, то твая аптымальная стратэгія можа быць толькі выпадковай. У гэтым сэнсе ключавая розніца паміж Усходам і Захадам палягае ў наступным: дэмакратыя інстытуцыялізуе выпадковы пошук з вельмі кароткім крокам, роўным тэрміну паміж выбарчымі кампаніямі».

У выбарах галоўнае — нявызначанасць выніку, дзякуючы гэтаму з'яўляецца магчымасць пошуку новых кірункаў. Інакш узнікае сітуацыя, добра вядомая па досведзе СССР, калі пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі савецкі народ 73 гады ішоў канкрэтнай дарогай. Як называецца тое месца, куды яна нечакана прывяла, — добра вядома.

На патрэбу СЧ у канкрэтнай дарозе гэта, аднак, ніяк не адбілася. Яе сучасны варыянт на афіцыйнай мове называецца «беларуская эканамічная мадэль развіцця». Усе яе базавыя прынцыпы, абвешчаныя ў сакавіку 2002 года, супярэчаць сучасным уяўленням пра эканамічны рост, але якая справа СЧ да сучасных прынцыпаў…

## Сталінскі шынель

СЧ — гэта тып чалавека, які адаптуецца да рэпрэсіўнай дзяржавы і прымае самаўпраўнасць дзяржавы як норму. Калі чалавека ўвесь час называць свіннёй, то ён пачынае рохкаць, а калі чалавекам доўгі час жорстка і цэнтралізавана кіраваць, то мы атрымаем аўтарытарную асобу, гатовую або падпарадкоўвацца, або самой здзяйсняць гвалт.

Ці варта пасля гэтага дзівіцца, што на свой другі рэферэндум (лістапад 1996 года) АП вынес пытанне пра смяротную кару. Паводле афіцыйных дадзеных ЦВК, супраць яе адмены выказалася 80,3% беларусаў ад колькасці тых, хто прыняў удзел у галасаванні.

Мне запярэчаць: маўляў, я не ўлічваю беларускую спецыфіку правядзення такіх мерапрыемстваў. Пагаджаюся, другі рэферэндум быў адзначаны дэбютам Лідзіі Ярмошынай у якасці кіраўніцы ЦВК. Спецыфіка яе працы праявілася, у прыватнасці, у росце яўкі амаль на 20 працэнтных пунктаў адносна першага рэферэндуму. Параўнаеце: травень 1995 года — 64,8%, лістапад 1996 года — 84,1%.

Але сам факт вынясення пытання пра пакаранне смерцю на рэферэндум сведчыць пра тое, што яго арганізатары разлічвалі зарабіць дадатковыя балы на абвяшчэнні выніку галасавання. І яны не памыліліся. Апытанні НІСЭПД увесь час фіксуюць хай і не вельмі істотную, але перавагу колькасці прыхільнікаў смяротнай кары над колькасцю тых, хто выступае за яе адмену.

Таму на заклікі Еўропы адмяніць пакаранне смерцю ў АП заўсёды маюцца аргументы для годнага адказу. У чарговы раз яны былі абвешчаны 11 кастрычніка: *«Мы не отменили смертную казнь. Я не считаю, что это хорошо, что у нас есть смертная казнь. Но ведь не я причина тому, что она сохраняется. Потому что есть в стране такие процессы, где нужно применять смертную казнь»*.

З прычыны адсутнасці поўнай стэнаграмы прэс-канферэнцыі я не здолеў падлічыць, колькі разоў АП ужыў словы *«жестко»* і *«жесточайший»* (*«следует наказать публично и жестко»*, *«на это надо реагировать публично и жесточайшим образом»* і г.д.). СЧ, які так і не зняў сталінскага шынялю, такую рыторыку ўспрымае вельмі арганічна. Іншай крыніцы падтрымання парадку, акрамя «моцнай дзяржавы» на чале з «моцнай асобай», ён не ўяўляе.

## «Чацвёртай — не было»

Базавыя каштоўнасці СЧ надзвычай устойлівыя. Змяняюцца толькі знешнія, аператыўныя механізмы ўзаемадзеяння і сродкі арыентацыі. З такімі высновамі дырэктара «Левада-цэнтра» Льва Гудкова цяжка не пагадзіцца. СЧ сёння актыўна асвойвае кампутар, што дазваляе яму ўвесь час нарошчваць сваю колькасць сярод папуляцыі «сеткавых хамякоў».

Але якія б электронныя гаджэты ні асвойваў СЧ, ён не здольны вызваліцца ад патрэбы ў негатыўнай кансалідацыі праз вобраз ворага. З моманту арышту гендырэктара ААТ «Уралкалій» Уладзіслава Баўмгертнера на першыя пазіцыі ў спісе ворагаў беларускага народа выйшлі жулікі з расійскай прапіскай. Вынік не прымусіў сябе доўга чакаць. Верасьнёўскае апытанне НІСЭПД, праведзенае на піку вышкрывальніцкай кампаніі, зафіксавала паслабленне расійскага інтэграцыйнага вектару.

Ці адбудзецца суд над арыштаваным у Мінску «жулікам» — гэта яшчэ вялікае пытанне. Але ў тым, што Баўмгертнер «здзейсніў злачынства» АП не сумняваецца. Для публічнага абвяшчэння гэтага гаранту Канстытуцыі рашэнне суда не патрэбнае.

У якасці даведкі прывяду адпаведны артыкул Канстытуцыі: «Артыкул 26. Ніхто не можа быць прызнаны вінаватым у злачынстве, калі яго віна не будзе ў прадугледжаным законам парадку даказана і ўстаноўлена прыгаворам суда, які ўступіў у законную сілу. Той, каго абвінавачваюць, не павінен даказваць сваю невінаватасць».

Ці адаб'юцца падобныя заявы гаранта Канстытуцыі на яго рэйтынгу? Не выключана, але не ў бок зніжэння. Для СЧ (галоўнай электаральнай апоры АП) непавага да закона, упэўненасць, што законнасць — гэта фармалізм, які перашкаджае справядлівасці, з'яўляюцца нормай. Сябе ж у якасці адзінага суверэна краіны СЧ не ўспрымае, і таму ўсе ўладныя паўнамоцтвы, а разам з імі і кантроль над выкананнем законаў, перадае наверх.

У такіх умовах у АП адкрываецца магчымасць вырашаць любыя пытанні «імем рэвалюцыі» (аж да расстрэлу на месцы). Для тых, хто ўсумніўся, прывяду адпаведную цытату: *«Собрали несколько групп, взяли крутые автомобили и устроили ловушку на этой трассе. Всех, кто сопротивлялся из бандитов, расстреливали на месте. Три группы такие уничтожили, четвертой — не было»*.

ПАРАЛЕЛІ

# ЧАМУ ПОЛЬСКІ ЯБЛЫК ТАННЕЙ ЗА БЕЛАРУСКІ?

Сяргей ПУЛЬША

**Хаця прыбытак — гэта асноўнае для бізнэсоўца, аднак больш істотнае — магчымасці развіцця. Падчас нашага знаходжання ў Польшчы мы пабачылі і такіх, для каго Беларусь пакуль яшчэ бачыцца такой магчымасцю.**



Яцэк Пташэк — чацвёртае пакаленне галоўных «кветкаводаў» Польшчы

## Прадпрыемства прыгажосці

«JMP Flowers» — 11 гектараў цяпліцаў і іншых збудаванняў, прызначаных для вырошчвання самых розных кветак. Прычым кветкі вырошчвае ўжо чацвёртае пакаленне сям'і ўладальнікаў.

У 1977 годзе студэнт Яраслаў Пташэк вырашыў паставіць сямейнае хобі на прафесійную бізнэс-аснову. Ён узяў у банку крэдыт на развіццё бізнэсу, пабудаваў 2000 квадратных метраў цяпліц для вырошчвання гваздзік і фрэзіяў. У наступныя гады пан Яраслаў разам з жонкай Марыяй заняўся вырошчваннем гербер і антурыўмаў. Плошча цяпліц павялічылася да 4800 квадратных метраў.

У 1998 годзе фірма «JMP Flowers» («JMP» у назве — гэта Яраслаў і Марыя Пташэк) пачала вырошчваць ружы. Дзякуючы прымяненню найноўшых тэхналогій і дакладнаму кантролю ўсіх кампанентаў вытворчасці, ружы з Сценжыцы набылі ўсепольскую вядомасць.

У 2007–2008 гадах пабудавалі сучасныя цяпліцы для вырошчвання архідэй. Зараз менавіта гэтыя цяпліцы — самыя буйныя аб'екты вытворчасці архідэй на польскім рынку. Выгадаваныя ў іх кветкі з'явіліся на рынку ў пачатку 2009 года. Гэта быў пералом у кветкавым бізнэсе — упершыню ў гісторыі самыя якасныя ў свеце цяплічныя аб'екты для вырошчвання кветак паўсталі не ў Галандыі, а ў Польшчы, у Люблінскім ваяводстве.

Няўжо на кветках можна зарабіць столькі грошай, каб пабудаваць такое прадпрыемства? Можна, але не без падтрымкі. Прадстаўнік чацвёртага пакалення кветкаводаў Яцэк Пташэк паведаміў: на развіццё архідэйнай вытворчасці (фактычна, на тое, каб не вазіць архідэі з Галандыі ў Польшчу) быў узяты крэдыт — 30 мільёнаў еўра. На нашае пытанне аб тым, які банк рызыкнуў такімі грашыма, Яцэк Пташэк адказаў: гэта той жа банк, які выдаў першы крэдыт «на кветкі» ў 1977 годзе. Гэта значыць, выдатная крэдытная гісторыя сям'і Пташэкаў налічвае 35 гадоў.

## Беларускае пытанне

Зразумела, пан Яраслаў клапоціцца пра свой бізнэс і ягонае развіццё. У той час, як сабекошт архідэі — каля 3 еўра, у Польшчы яны прадаюцца па 6 еўра, а на беларускім рынку кошт кветкі ў краме сягае 20 еўра, было б някепска паставіць прадпрыемства тут, у Беларусі. І Яраслаў Пташэк усур'ёз задумваўся наконт гэтага пытання.

Ён ведае, што Беларусь — гэта не толькі мільённы рынак. Ён разумее, што наша краіна — выхад на ўвогуле неабдымны расійскі рынак. Прадпрыемства ў Беларусі магло б файна развівацца, калі паміж Расіяй і Беларуссю не існуе мытных бар'ераў. Але…

Здагадайцеся, якое пытанне першым задаў пан Пташэк беларускім журналістам? «Ці праўда, што Аляксандр Лукашэнка прысабечвае любое, замежнае ці не замежнае, прадпрыемства, якое пачынае прыносіць нейкі прыбытак?» Гэтае пытанне сведчыць пра тое, які ў нашай краіне інвестыцыйны імідж.

Беларускія журналісты патлумачылі яму, што такое магчыма толькі з тымі прадпрыемствамі, якія пабудаваныя на аснове дзяржаўнай уласнасці і засталіся яшчэ з савецкіх часоў. «Чыста замежныя» ж прадпрыемствы ў Беларусі працуюць без канфіскацый і нацыяналізацый. А пра «спецыфічныя патрабаванні» для замежных інвестараў трэба было б размаўляць асобна.

Асобнай размовы пра гэтыя патрабаванні не атрымалася, бо пан Яраслаў задаў наступнае пытанне: «Ці магу я набыць зямлю пад сваё прадпрыемства?» Давялося расчараваць: толькі ў доўгатэрміновую арэнду на 99 гадоў. «Тады мяне гэта не цікавіць», — адрэзаў Яраслаў Пташэк.

Сапраўды, для бізнэсу, які будуецца на вырошчванні чаго-небудзь, зямля — гэта ключавое пытанне. Будаваць тут прадпрыемства без таго, каб асноўны «сродак вытворчасці» табе не належаў — глупства.

Яраслаў Пташэк усё ж не страціў цікавасць да Беларусі. Але, на вялікі жаль, на кошце кветак і іх разнастайнасці гэта не адаб'ецца. Бо ўладар «JMP Flowers» пачаў распытваць пра магчымасці выхаду праз Беларусь на расійскі рынак — лагістычныя цэнтры, склады з умовамі для раслінаў і тэрміналы. Вось такім чынам польскія кветкі і прасвісцяць міма нас транзітам. А маглі б неблагое прадпрыемства зрабіць, вырошчваць танныя кветкі, атрымаць праз гэта працоўныя месцы і падаткі ў бюджэт.



Фота аўтара

Такое прадпрыемства магло б быць і ў Беларусі

## Яблыкі з Элізувкі

Яшчэ адно прадпрыемства, якое хацела б цясней працаваць з Беларуссю — гэта рынак сельскагаспадарчай прадукцыі «Элізувка». Гэта самы ўсходні ў ЕС аптовы рынак. Плошча рынку — за 50 га. Сучасная інфраструктура, зручныя стаянкі, кругласутковая ахова, — карацей, усё для гандлю. Гандлёвую плошчу арандуе каля 160 кампаній, якія прадаюць і купляюць не толькі гародніну, садавіну, бакалею, але таксама малочныя прадукты, мяса, хлеб, замарожаныя прадукты і рыбу. Ёсць кветкавыя залі з дадаткамі: плецёнымі вырабамі, свечкамі і керамікай. На рынку «Элізувка» можна купіць таксама ўпакоўку, угнаенні, сродкі аховы раслін, насенне і хімічныя прадукты. Штодня да іх прыязджае каля 3000 кліентаў.

Намеснік кіраўніка аптовага рынка Адам Рыхлічак распавёў, што тут імкнуцца прываблівать коштамі. Менавіта канкурэнцыя дазваляе трымаць нізкія кошты на тавар.

Найперш з гэтага рынку ў Беларусь едуць яблыкі. А таксама садавіна, гародніна, мяса і шампіньёны. Прадукцыя для беларусаў — каля 20% аб'ёму продажу рынка. Зацікаўлены рынак і ў беларускай прадукцыі для палякаў — найперш ва ўгнаеннях, азотных і калійных, драўляных вырабах, ільняных выцісках.

Тыя, хто закупляе прадукцыю, могуць зрабіць гэта самастойна, а могуць і скарыстацца Цэнтрам знешняга гандлю. Галоўная ягоная задача — прасоўванне польскіх прадуктаў у Еўропе і свеце. Цэнтр знешняга гандлю гарантуе бяспеку плацяжоў і якасць прадукцыі — тое, што прадукцыя будзе своечасова аплачаная і пастаўленая ў тэрмін. «Пастаўка ў тэрмін» прадугледжвае якаснае афармленне мытных дакументаў, накладных, санітарных сертыфікатаў і гэтак далей, аж да праходжання мяжы. Карацей — усё для кліента.



Адам Рыхлічак марыць пра беларускія яблыкі, насуперак свайму бізнэсу

Усім гэтым, усяго за 2–3% камісійных, займуцца спецыялісты Цэнтру. «Нам важныя не грошы, якія мы атрымаем у якасці камісійных, а аб'ёмы прададзенай прадукцыі. Таму кошт паслугаў Цэнтра знешняга гандлю такі сімвалічны», — распавядае Адам Рыхлічак.

## Праблемы ў галовах

Але чаму напрыканцы зімы польскія яблыкі танней за беларускія? Гэтым рэгулярна беларускае кіраўніцтва папракае сельскую гаспадарку. На гэтае пытанне Адам Рыхлічак адказвае:

«Я таксама, як і ваш прэзідэнт, па адукацыі фермер. Калі ён прафесіянал у гэтай галіне, ён ведае, пра што кажа. Калі мы едзем па Беларусі, мы бачым выдатныя палі, па якіх рыпяць камбайны. Так што вы на еўрапейскім узроўні па зерневых, кукурузе і маслянічных — саромецца няма чаго. Але садаводства — гэта іншае, патрэбны шматгадовы досвед, каб выпрацаваць свае тэхналогіі, гатункі. У Польшчы быў такі навуковец, прафесар Пенёнжэк, які заснаваў адпаведны інстытут і ўсё жыццё паклаў на тое, каб вывесці садаводства Польшчы на новы віток. Для вырошчвання яблыкаў патрэбныя спецыфічныя ўмовы — глеба, кліматычныя ўмовы, мікраклімат і гэтак далей. У Польшчы ёсць два раёны, каля Любліна і Варшавы, дзе вырошчваюць такія яблыкі, якіх нідзе ў свеце вырасціць нельга», — кажа Адам Рыхлічак.

Тым не менш, ён адзначае: калі ў Ізраілі навучыліся вырошчваць мандарыны, у Беларусі, якая не вельмі адрозніваецца ад Польшчы, маглі б навучыцца вырошчваць яблыкі. Бо Расія і Украіна навучыліся ж? «Беларусь можа пайсці шляхам Расіі і Украіны: набраць выпускнікоў сельгасакадэмій Польшчы, закупіць саджанцы, гадаваць іх — і праз 10 гадоў у вас будуць такія ж сады», — мяркуе Рыхлічак.

«Я мару пра тое, каб маладыя беларусы прыязджалі ў сельгасакадэміі Польшчы, станавіліся тут сапраўднымі спецыялістамі і вырошчвалі сады ў сябе», — сказаў Рыхлічак. Але адразу ж спахапіўся: «Я ж гэтым рублю сук, на якім сяджу — гандаль з Беларуссю».

Але ж… Можна закупіць саджанцы, можна наняць польскіх спецыялістаў ці навучыцца самім. Пытанне застаецца тое ж: як укласці грошы ў сад, калі зямля пад гэты сад табе не належыць? Можна 10 год вырошчваць яблыні, а ўраджай з іх збярэ нехта іншы, забраўшы гэтую зямлю. Да тае пары, пакуль не будзе на зямлі не толькі гаспадара, але і ўласніка, польскія яблыкі і будуць танней за беларускія.

## Краіна страчаных магчымасцяў

Карацей, Беларусь магла б быць Польшчай. Магла б быць і лепш за Польшчу. Але мы страчваем і працягваем страчваць свае магчымасці з-за нейкіх постсталінскіх комплексаў. Пад лозунгам «каб не распрадалі краіну», мы страцілі магчымасці ў вытворчасці электронікі, і дагэтуль ствараем «Гарызонты» і «тэлефоны-аўтаматы» замест тэлевізараў «Sharp» і мабільнікаў. Пад тым жа соўсам, «ані кроплі зямлі замежнікам», мы страчваем зараз іншыя магчымасці. Нягледзячы на тое, што Лукашэнка слушна гаворыць: зямлі хопіць на 20 мільёнаў чалавек. І не таджыкі з кітайцамі хацелі б за гэтую зямлю ўзяцца (не падумайце нічога дрэннага пра таджыкаў і кітайцаў — і ім месца хопіць), а людзі з перадавымі тэхналогіямі і досведам.

Калі мы не зменім сваё стаўленне да замежных інвестыцыяў, мы так і застанемся «транзітнай зонай». Проста краінай у цэнтры Еўропы, у якой няма ніякіх выгодаў, апроч тэрытарыяльнага становішча. І будзем жыць «кепска, але надоўга».

## 25 КАСТРЫЧНІКА, ПЯТНІЦА

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.10** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія). 3-я серыя.
**11.05** Дакументальны цыкл «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).
**16.30** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**17.35** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**19.20, 00.15** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.50** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія). 4-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.55** Даваряй і правярай.
**22.30** Авантурны трылер «Няўлоўны» (Францыя).
**01.00** Дзень спорту.
**01.10** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).

### АНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Самы лепшы муж».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**17.00** «У наш час».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Хачу ў ВІА ГРУ». Фінал.
**23.20** «Што?Дзе?Калі?» у Беларусі.
**00.35** Прэм'ера. Фільм «Каханне».
**02.55** Начныя навіны.

### СТБ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Навалукомль.
**09.15** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Навалукомль.
**14.05** Фільм «Жывы». Расія, 2006г.
**15.50** «Якія людзі».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Орша.
**20.30** Фільм «Мой лепшы сябар». Францыя, 2006г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** Фільм «Выкрадальнікі кніг». Расія.

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр
**09.05** Серыял «Двайняты» (Расія)
**10.15** Пад грыфам «Вядомыя».
**10.55** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**12.25** Трагікамедыя «Восеньскія сны».
**14.10** «Бацькі і дзеці» (Беларусьфільм). Заключныя серыі.
**16.50** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Бананавы рай» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма
**18.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма.
**22.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.30** Тэніс. Выніковы турнір. Стамбул. Жанчыны.

### Беларусь 3

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Галасы з мінулага».
**08.25** «Росчырк часу». Творчасць дынастыі мастакоў Паповых.
**08.40** «Ад зямлі, ветру і сонца». Навукова-папулярны фільм.
**09.05** «Лабірынты». Ваенная слава і бясслаўе Быхаўскага замка.
**09.35** «Залатое цяля». 6-я серыя.
**10.20** «АРТиШОК». Праграма знаёміць з жывапісцам, скульптарам і педагогам Віталем Чарнабрысавым.
**10.50** «Плач перапёлкі». 7-я - 9-я серыі.
**14.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра Віктара Турава.
**14.35** «Тэатральны ліцэй». Экран і сцэна.
**15.00** «Галасы з мінулага».
**15.10** «Нінель Шчасная». Дак. фільм.
**15.35** «Эпілог». Мастацкі фільм.
**17.10** «Карані». Справы сямейныя. Беларускія сем'і, якія пражываюць у Польшчы.
**17.35** «Росчырк часу». Творчасць дынастыі мастакоў Паповых.
**17.50** «Калейдаскоп».
**18.00** «Галасы з мінулага».
**18.10** «Фараон». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Белыя Росы». Мастацкі фільм.
**22.15** «АРТиШОК». Праграма знаёміць з жывапісцам, скульптарам і педагогам Віталем Чарнабрысавым.
**22.45** «Залатое цяля». 7-я серыя.
**23.30** «Тэатральны ліцэй». Экран і сцэна.
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра Віктара Турава.
**00.25** «Калейдаскоп».
**00.30** «Галасы з мінулага».

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**08.40** Більярд. Міжнародны турнір «Мінск Open-2013».
**10.00** «Адмысловы выпадак».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.20** Дзённік Сочы-2014.
**14.25** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.10** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Фільм «Суседзі па разводзе». 2013 г.
**22.40** Навіны - Беларусь.
**22.50** «Жывы гук».
**00.20** Фільм «Паўднёвыя ночы» (2011 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Серыял «Вяртанне Мухтара».
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Баявік «СОБР».
**23.15** Прэм'ера. «Грузія: гісторыя аднаго расчаравання».
**00.20** «Ягор 360».
**00.50** Серыял «ППС».

### Белсат

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.25** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**10.05** «Бландзінка», серыял: 12 серыя.
**10.50** «Край светлых мрояў», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**11.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**13.15** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.40** Аб'ектыў.
**14.05** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**14.50** «Бландзінка», серыял: 2 серыя.
**15.35** «Край светлых мрояў», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**16.30** «Варганы», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**16.50** «Ранча», серыял: 24 серыя.
**17.40** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**18.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавачая праграма).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Дэвайс.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (параднік гледача).
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Дэвайс.
**20.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Дом», серыял: 7 серыя.
**23.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.05** ПраСвет.
**01.35** Аб'ектыў.
**02.00** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 26 КАСТРЫЧНІКА, СУБОТА

### Беларусь 1

**07.10** Камедыя «Сем нянек» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**12.10** Здароўе.
**13.00** Усё як мае быць!
**13.35** Нашы.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**16.25** Даваряй і правярай.
**16.55** Прыгодніцкі фільм-фэнтэзі «Таямніца Мунакра» (Венгрыя-Вялікабрытанія-Францыя).
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.10** Прэм'ера! Крымінальная меладрама «Згубленыя ў лясах» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Даваряй і правярай.
**22.15** Прэм'ера! Крымінальны баявік «Паркер» (ЗША).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна).

### АНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** «Ералаш».
**13.00** Прэм'ера. «Тамара Сёміна. Спакусы і прыхільнікі».
**14.00** «Рабінзон». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адгадай мелодыю».
**17.00** «Абмен жонкамі».
**18.10** «Адзін супраць усіх».
**19.05** «Хвіліна славы. Дарога на Алімп!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.55** «Паспець да паўночы».
**23.35** «Што? Дзе? Калі?».
**00.50** Вострасюжэтны фільм «Пракляты шлях».

### СТБ

**06.40** «NEXT». Серыял. Заключная серыя.
**07.35** Фільм «Мой лепшы сябар». Францыя, 2006г.
**09.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Орша.
**09.35** «Чыстая праца».
**10.30** «Уявіце сабе».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.40** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Орша.
**13.55** Фільм «Вялікая змена». СССР,1972 г. 3-я серыя.
**15.15** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Эліксір маладосці».
**18.35** «Дзіўная справа».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Паставы.
**20.20** Фільм «Перавозчык 3». Францыя - Вялікабрытанія - ЗША, 2008г.
**22.20** «Зорны рынг. Новы сезон.
**23.35** Фільм «Сапраўдная легенда». Кітай.
**01.30** «Глядзець усім!».

### Беларусь 2

**07.45** Мультфільмы.
**08.05** Фільм-казка «Там, на невядомых дарожках» (СССР).
**09.15** Пазакласная гадзіна.
**09.35** Тэлебарометр.
**09.40** Месцы сілы.
**10.15** «Каханне зямное» (СССР).
**12.05** «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў». Забаўляльная шоў-праграма (Расія)
**13.15** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма (Расія)
**14.25** Футбол. Чэмпіянат свету-2014.
**14.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**16.55** Камедыйны баявік «Дрэнная кампанія» (ЗША-Чэхія).
**19.15** Ваша лато.
**20.00** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Цудоўная сямёрка. Вяртанне.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Прэм'ера. Авантурная камедыя «Фартуна Вегаса» (ЗША-Вялікабрытанія-Францыя).
**22.55** «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў». Забаўляльная шоў-праграма (Расія).
**23.55** Тэніс. Выніковы турнір. Стамбул. Жанчыны.

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Абіцель душы».
**08.40** Дзіцячы фільм. «Вогненны стралок».
**10.00** «Мая васьмідзесятая восень». Дак. фільм пра дырыжора, народнага артыста СССР і Беларусі Віктара Роўду.
**10.40** «Тысячагадовае Заслаўе». Дак. фільм.
**11.10** «Наперад у мінулае».
**11.35** Мультфільмы.
**12.15** «Фантасмагорыі Паніна». Дак. фільм пра творчы калектыў «Доктар Ю-мор» маладзёжнага тэатра эстрады.
**12.30** «Лёс зубра». Навукова-папулярны фільм.
**12.50** «Пяць дзён з жыцця генеральнага канструктара». Дакументальны фільм.
**13.20** «Белавежскі бондар». Дак. фільм.
**13.35** «Рамантык з Лоцынкі». Пісьменнік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Дак. фільм.
**14.00** «Час патрыётаў». Гісторыя беларускага кіно.
**14.35** VIII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. Канцэрт да 25-годдзя Камернага аркестра гімназіі-каледжа пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Перліна.
**15.50** «Патоп». Мастацкі фільм. 1-2 серыі.
**20.30** Калыханка.
**20.45** Сусветнае кіно. «Трыумф кахання».
**22.40** «Без права на дубль». Аляксандр Дзядзюшка.
**23.25** «Калейдаскоп».

### Россия

**07.00** Фільм «Што хавае каханне» (2010 г.).
**08.35** Фільм «Паўднёвыя ночы» (2011 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** Мультфільмы.
**12.15** Фільм «Жанаты халасцяк».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «Касмічны камікадзэ».
**15.50** «Сваты-6. За кадрам».
**17.40** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.45** «Танцы з Зоркамі». Сезон-2013.
**23.25** Фільм «Каханне для бедных» (2012 г.).
**01.10** Фільм «Васількі для Васілісы» (2012 г.).

### НТВ

**06.30** Серыял «Дарожны патруль».
**08.00, 10.00, 13.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.20** «Я худнею».
**14.20** «ДНК». Ток-шоў.
**15.15** Вострасюжэтны серыял «Важняк».
**16.45** «Следства вялі..».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.25** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**19.50** «Новыя рускія сенсацыі».
**20.55** «Ты не паверыш!».
**21.55** «Выспа».
**23.25** Серыял «Вярнуць на даследаванне».

### Белсат

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** ПраСвет.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.25** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**09.35** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Мадла і Туп», «Чацвёра вушэй у пераляску».
**10.10** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял.
**10.35** Асабісты капітал.
**10.55** На колах.
**11.25** Два на два (тэледыскусія): Украіна – у Еўразвяз. Што з Беларуссю? Уладзімір Падгол і Віталь Цыганкоў.
**11.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.15** Форум (ток-шоў).
**13.00** МакраФон: «Сімфанічны канцэрт: ч. 2.
**13.35** «Глыбокая вада–2», серыял: 7 серыя.
**14.20** «Край светлых мрояў», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**15.10** «Дом», серыял: 7 серыя.
**16.50** «Час гонару», серыял: 56 серыя.
**17.35** «Чароўнае дрэва», серыял: 7 серыя.
**18.00** Еўропа сёння.
**18.30** Назад у будучыню.
**18.40** Забавы «Ліпі і Мэсі».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**19.00** «Фотааматар», дак. фільм, 1998 г., Польшча.
**20.00** Зона «Свабоды».
**20.30** Відзьмо-невідзьмо: выд. 41.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Форум (ток-шоў).
**22.00** Суботні сеанс: «Раз'юшаныя нябёсы», трымценнік, 2001 г., ЗША.
**23.40** ПраСвет.
**00.05** «Трэці афіцэр», дэтэктыўны серыял: 3 серыя.
**00.50** МакраФон: «Басовішча-2007».
**01.25** Аб'ектыў.
**01.40** Вагон.

## 27 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.20** Камедыя «Беражыся аўтамабіля».
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**12.10** Зона Х. Вынікі тыдня.
**12.45** Каробка перадач.
**13.20** Медычныя таямніцы.
**13.50** Заўтра - гэта мы!
**14.20** «Terra incognita. Беларусь невядомая».
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Клуб рэдактараў.
**16.15** БеларусьLIFE.
**16.40** Даварай і правярай.
**17.10** Анімацыйны фільм «Прынцэса і жаба» (ЗША).
**19.00** Прэм'ера! Трагікамедыя «Марафон» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Эксцэнтрычная камедыя «Быць Стэнлі Кубрыкам» (Вялікабрытанія-Францыя).
**00.10** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Вясельны перапалох».
**12.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.25** Фільм «Сардэчна запрашаем, ці Староннім уваход забаронены».
**14.50** Прэм'ера. «Усе хіты «Гумар FM».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера «Куб».
**17.35** «Эстрадны кактэйль».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера сезону. «Ледавіковы перыяд».
**00.05** Прэм'ера. Фільм «Вады сланам!».

### СТВ

**06.20** «NEXT 2». Серыял.
**07.55** Фільм «Перавозчык 3». Францыя - Вялікабрытанія - ЗША, 2008 г.
**09.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Паставы.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Вялікая змена». СССР, 1972 г. Заключная серыя.
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Віцебск.
**17.00** «Аўтапанарама».
**17.30** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**18.00** Канцэрт М. Задорнава.
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Віцебская вобласць.
**21.15** Фільм «Персанаж». ЗША, 2006 г.
**23.25** Фільм «Горад жыцця і смерці». Кітай - Ганконг, 2009 г.
**01.40** «Якія людзі».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.30** Мультфільмы
**07.40** Фільм-казка «Снежная каралева».
**09.00** Пазакласная гадзіна.
**09.20** Тэлебарометр.
**09.25** Рамантычная камедыя «Утаймаванне свавольнага» (Італія).
**11.20** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Бананавы рай» (Расія).
**11.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**12.25** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**13.20** «Каханне зямное» (СССР).
**15.10** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**16.35** Авантурная камедыя «Фартуна Вегаса» (ЗША-Вялікабрытанія-Францыя).
**18.25** Хакей для ўсіх
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Бананавы рай» (Расія).
**21.40** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**22.55** Тэніс. Выніковы турнір. Стамбул. Фінал. Жанчыны.
**01.00** Спорт-кадр.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Таямніца душы».
**08.40** «Камандзір з вёскі Белае». Дак. фільм пра лётчыка-касманаўта, Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Кавалёнка.
**09.05** «Паданне пра Тураў». Дак. фільм.
**09.30** «Плошча мастацтваў». Народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч.
**10.00** «Край белавежскі». Дак. фільм пра старадаўняе беларускае мястэчка Камянец.
**10.10** «Геадэзічная Дуга Струвэ». Навукова-папулярны фільм.
**10.25** «Шчасце». Дак. фільм пра мастака-кераміста Аляксандра Наўгародскага.
**10.45** «Настальжы». Творчасць заслужанага артыста Беларусі Міхаіла Жылюка.
**11.20** «Патоп». Мастацкі фільм. 1-2 серыі.
**16.00** «Без права на дубль». Аляксандр Дзядзюшка.
**16.45** «Культпрасвет».
**17.15** Дзіцячы фільм. «Вогненны стралок».
**18.35** Сусветнае кіно. «Трыумф кахання».
**20.30** Калыханка.
**20.50** Канцэрт памяці народнага артыста Беларусі Якава Навуменкі.
**22.25** «Культпрасвет».
**22.25** «Культпрасвет».
**22.50** «Чайка». Спектакль Гомельскага абласнога драматычнага тэатра.
**01.15** «Калейдаскоп».

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Канапа для самотнага мужчыны» (2012 г.).
**10.10** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Фільм «Яны сышлі з нябёсаў».
**14.00** Весткі.
**14.15** Фільм «Суседзі па разводзе» (2013 г.).
**16.15** «Сваты-6. За кадрам».
**18.05** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм «Праверка на каханне» (2013 г.).
**23.20** «Нядзельны вечар».
**01.05** Фільм «Тэрмінова шукаю мужа» (2011 г.).

### НТВ

**06.25** Серыял «Дарожны патруль».
**08.00, 10.00, 13.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача».
**13.15** Фільм «Небяспечная сувязь».
**15.10** Вострасюжэтны серыял «Важняк».
**16.45** «Следства вялі..».
**17.35** «Ворагі народа». Аўтарскі праект.
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Прэм'ера. Вострасюжэтны фільм «Цягнік на поўнач».
**23.25** «Як на духу».
**00.20** «Прамень Святла».
**00.50** «Школа зласлоўя».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Матыльда», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**07.40** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял.
**08.10** «Калі сэрца ў чаканні», серыял.
**08.35** Без рэтушы: «Забаронены фільм», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**08.50** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.30** Рэпартэр.
**10.00** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял: 8 серыя.
**10.30** Еўропа сёння.
**11.00** Спазнай свет: «Опера кунь-цюй», дак. фільм, 2003 г., Кітай.
**11.20** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.40** «Бландзінка», серыял: 12 серыя.
**12.30** МакраФон: «Басовішча-2007».
**13.00** «Сыгнет падману», маст. фільм, 2009 г., Канада.
**14.40** «Фотааматар», дак. фільм, 1998 г., Польшча.
**15.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**16.05** Форум (ток-шоу).
**16.55** «Дзённік «Народнага альбома», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**17.55** ПраСвет.
**18.20** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.35** Забавы «Ліпі і Мэсі».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**18.55** «Час гонару», серыял: 57 серыя.
**19.45** МакраФон: Рамантычны канцэрт: ч. 2.
**20.05** Дакументальная гадзіна: «Ізгоі», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**21.00** Два на два (тэледыскусія): Актуальныя выклікі для беларускай дзяржаўнасці: Зянон Пазняк і Алесь Краўцэвіч.
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**22.00** Фільматэка майстроў: «Чужая», маст. фільм, 2010 г., Германія.
**00.00** «Кароль-вінароб», серыял: 1 серыя.
**00.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 41.
**01.15** Два на два (тэледыскусія): Актуальныя выклікі для беларускай дзяржаўнасці: Зянон Пазняк і Алесь Краўцэвіч.
**01.40** Вагон.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**



БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______

Кассир Всего ______

АГЛЯД

Алег НОВІКАЎ

**Расіяне актыўна намагацца разабрацца, што стаіць за словамі Лукашэнкі: «Калінінград — наша зямля». Прапануем агляд каментараў на расійскіх форумах.**



# ВЯРТАННЕ ТЭЎТОНСКАГА ОРДЭНА

«КАЛІНІНГРАД — НАША ЗЯМЛЯ!»

Калінінградскі фрагмент выступу Лукашэнкі перад расійскімі рэгіянальнымі СМІ выклікаў гучнае рэха ў Расіі. Ужо ўзніклі некалькі трактовак. Адна з самых папулярных — Лукашэнка меў на ўвазе ідэю зямельнай арэнды. Быццам, землі Калінінградскага рэгіёна можа ўзняць толькі беларускі агракомплекс. «Не сакрэт, што РФ давяла Калінінградскую вобласць да ручкі, да запусцення і заняпаду. Лукашэнка ведаў, у якую кропку б'е» (Максім Калашнікаў).

Значная частка рунэту зразумела гэта як палітычнае пасланне. Не дарма ў самім Калінінградзе адразу актывізавалася прыхільнікі вяртання краю пад кантроль Германіі. Яны правялі нават пікет пратэсту каля беларускага консульства. Адзін з іх, блогер arye_02, піша: «Пакіньце гэтыя пустыя разважанні «пікейных камізэлек». Рана ці позна, але Усходняя Прусія вернецца ў склад Германіі, шляхам мірным, гандлёвым, інтэграцыйным. А калі б правесці рэферэндум сярод калінінградцаў па пытанні далучэння да Германіі, то ўжо сёння працэнтаў 70 сказалі б сваё «так».

Аднак некаторыя мяркуюць, што Пуцін сам папрасіў Мінск агучыць такую прапанову ў нейкіх тактычных мэтах. Перш за ўсё ў сувязі з цяперашняй расійска-літоўскай гандлёвай вайной.

«Вольф Тамбоўскі» ў каментары для выдання «Калининград.ру» піша: «Гэта, вядома, сігнал Літве: кажаце, што вашы бізнэсоўцы сыдуць з Расіі наогул, і з Калінінграда ў прыватнасці, і станучь шукаць іншыя рынкі збыту? Ну-ну, абыдземся і без вас, самі яшчэ вам прадаваць будзем! Так што думайце, на каго лапку задзіраць».

Магчыма, Пуцін вырашыў пагуляць з Захадам у добрага і злога паліцэйскага. Ролю апошняга пагадзіўся выконваць Лукашэнка. «Ён назваў вобласць «нашай зямлёй», чым празрыста акрэсліў сябе прыхільнікам адзінства рускіх зямель і пацвердзіў свой ранейшы пастулат пра тое, што расіяне (велікаросы, ужо калі дакладней) і беларусы — адзін народ. (Гэта значыць, рускі народ)», — піша блогер Касатонаў.

Аднак некаторыя, наадварот, лічаць, што Мінск занадта шмат сабе дазваляе. Блогер пад нікам Svaragam адзначае: «Нельга не разумець, што кіраўніцтва Беларусі па факце тармозіць працэс стварэння Еўразійскага саюза. Ніхто не сцвярджае, што кіраўніцтва Расіі ідэальнае (і мы лепш ведаем пра яго недахопы, чым хто), але ніякага аб'яднання і адраджэння адзінай краіны не атрымаецца, калі кожны лукашэнка будзе ставіць галоўную ролю Масквы пад пытанне і амаль у кожным сваім адказе супрацьпастаўляў вобраз Беларусі як «блаславёнай зямлі» выяве «нямытай і беднай Расіі, у якой запраўляюць бандыты», што абсалютна выразна прыводзіць людзей да думкі, што Лукашэнка як лідар Расіі быў бы лепш, чым Пуцін. І што цяперашняя Расія не вартая мець нават Калінінград у сваім складзе. Гэта не выпадковая агаворка, але адкрытае праява той палітыкі, якую Лукашэнка праводзіць даўно. Палітыка гэтая зводзіцца да прапановы рускаму народу свайго лідарства і свайго разумення развіцця Расіі, якое моцна адрозніваецца ад Пуціна».

Часам чаканне месіі пераходзіць усе межы: «Упэўнены, што вельмі шмат хто ў РФ пагадзіўся б не толькі Калінінград, але і яшчэ Масквы і аб'вяшчэнне таго, што ён, Лукашэнка, бярэ на сябе адказнасць за Саюзную дзяржаву і за Расію ў прыватнасці — дарэчныя цалкам. Два моманты тут важныя: трэба загадзя і таемна сфармаваць урад у РФ. А, па-другое, заручыцца падтрымкай Пекіна. Бо інакш апынешся адзін на адзін з усім Захадам і «сусветнай дэмакратыяй». Нядрэнна было б зрабіць заявы, разлічаныя на несыравінных прамыслоўцаў РФ і на яе аграрыяў, якія раз'юшаныя ўваходам у СГА. Гэта і іх магло б пацягнуць у бок Мінска. Разам з іх працоўнымі калектывамі».

Ёсць і тыя, хто лічыць, што наезд на Пуціна — гэта праява слабасці Лукашэнкі. «Лукашэнка страціў упэўненасць у сабе і бачыць, што рэальная ўлада сыходзіць у яго з-пад рук: эканоміку ліхаманіць, Масква ўзяла пад кантроль газавую трубу, неўзабаве забярэ і «Белкалій», праз паўтара года запрацуе Еўразійскі саюз. Не выключана, што гэта адчайны крок Лукашэнкі пасля таго, як ён не атрымаў ад Пуціна гарантый падтрымкі ў спрэчцы з Керымавым» (russkiy_malchik).

Аднак не ўсе ў Расіі ў захапленні ад такіх сцэнараў. Для некаторых Лукашэнка — рэінкарнацыя Хрушчова, які, як вядома, у свой час перадаў Крым у склад Украіны. Неабходнасць перадачы Крыму матывавалі таксама эканамічнымі рэзонамі. Быццам, Кіеў бліжэй да паўвостраву, чым Масква, і таму зможа надаваць больш увагі эканамічнаму развіццю рэгіёну. Пра палітычныя наступствы такога кроку задумаліся, толькі калі Украіна выйшла з СССР.

Блогер пад нікам svrussiaspb піша: «Няўжо не зразумела, што з геапалітычнага пункту погляду гэта нічым не лепш, чым аддаць Крым некалі Украінскай ССР? Няўжо не навучыў нашых патрыётаў і славянафілаў гэты сумны вопыт простай выснове, што адзіным закладам цэласнасці Расіі з'яўляецца яе адзіны палітычны цэнтр, і што ніхто, акрамя гэтага цэнтра, не здольны захаваць зямлі, і нельга іх аддаваць ніякім саюзнікам і ніякім іншым цэнтрам Рускага свету».

Застаецца нагадаць менш папулярныя версіі. Шмат хто спісвае сентэнцыю на імпульсіўнасць беларускага лідара (фраза пра Калінінград не ўвайшла ў кананічную версію тэксту інтэрв'ю, якое апублікавана ў той жа СБ). Аднак за такой імпульсіўнасцю каментатары бачаць крызіс новай інтэграцыі.

Нарэшце, пра сатырычныя каментары наконт перадачы Калінінграда Мінску... Так, Дзмітрый Яўсюткін лічыць, што перадача Калінінграда стане пралогам стварэння Беларуска-Прускай дзяржавы, якая ўключыць не толькі ўсю Прыбалтыку, аднак і былую Прусію аж да Гданьска. Паколькі фактычна гэта рэстаўрацыя Тэўтонскага Ордэна, кіраваць гэтым дзяржаўным фармаваннем павінен Вялікі магістр, наконт імя якога, напэўна, вы ўжо здагадаліся».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларускі прэзідэнт перакананы, што стварыў унікальную і эфектыўную мадэль, а свавольныя і недалёкія беларусы не разумеюць свайго шчасця. У той жа час людзі масава бягуць з краіны з-за цэнаў, якія пастаянна растуць, і нізкай зарплаты, а топ-менеджмент і эканамічна актыўныя амбіцыйныя грамадзяне — з-за немагчымасці рэалізаваць сябе. Эксперты, разважаючы з нагоды дзіўных ініцыятываў улады (падатак на беспрацоўных), прагназуюць рост жадаючых з'ехаць з краіны на ПМЖ.

**«Независимая газета» (Расія)**

Паміж Мінскам і Масквой разгараецца новы канфлікт — з-за экспартных пошлін на нафтапрадукты. Лукашэнка разлічвае на адмену з 1 студзеня наступнага года пошлін за экспарт з краіны нафтапрадуктаў, выробленых з расійскай нафты, і заяўляе, што ў адваротным выпадку Беларусь «не пацягне» далейшы ўдзел у Мытным саюзе. Нервовасць беларускага кіраўніка тлумачыцца цяжкай эканамічнай сітуацыяй у краіне. Па словах расійскіх экспертаў, беларускі кіраўнік абраў вельмі зручны час для выстаўлення патрабаванняў Расіі. Цяпер Масква заклапочаная тым, каб не дапусціць еўраінтэграцыі Украіны. Расія ўжо даўно хоча, каб Украіна далучылася да Мытнага саюза. А пра якое далучэнне можа ісці гаворка, калі адзін з чальцоў МС пагражае выхадам?

**Газета.ру (Расія)**

Амаль 6 гадзін маналогу Лукашэнкі, які толькі зрэдку спынялі пытанні расійскіх рэгіянальных журналістаў, не зрабілі асаблівага ўражання на расійскія СМІ. У федэральных навінах адзначылі толькі два яго выказванні: патрабаванне перадаць Беларусі расійскую Калінінградскую вобласць і пагрозу выйсці з Мытнага саюза. Патрэбна адзначыць, што і гэтыя дзве самыя скандальныя цытаты былі пракаментаваныя на расійскіх каналах з непрыхаваным сарказмам. Справа ў тым, што беларускага кіраўніка на расійскім палітычным полі даўно не ўспрымаюць сур'ёзна, знаёмствам з ім хваліцца не прынята, а пасля захопу топ-менеджара кампаніі «Уралкалій» у расійскай эліце і палітычным класе складана знайсці фанатаў Лукашэнкі.

**politoboz.com (Расія)**

Жанр прэс-канферэнцыі ўвогуле для суседскай аўдыторыі, але менавіта для правіцыйнай, даволі незвычайны. Гэты унікальны жанр быў вынайдзены Лукашэнкам у канцы 1990-х гадоў і мае цалкам канкрэтнае слаўвалюбівае прызначэнне. Ён ажыццяўляў свой абцякальны манеўр — прыцягнуць на свой бок правінцыю, не азіраючыся на сталіцу, якая, будучы ізаляванай, нікуды не падзенецца. Тады карты яму зблытала прызначэнне ў жніўні 1999 Пуціна прэм'ерам. Свой вобраз сілы з'явіўся ўнутры Расіі, і Лукашэнка адступіў. Тады здавалася, што назаўсёды. Але сённяшні агітпроп, які разлічаны, як і раней, на рускую правінцыю, паказвае, што, як і 14 гадоў таму, верны саюзнік на нешта спадзяецца. Лукашэнка — гэта сімптом, і расійскай уладзе тут ёсць пра што задумацца.

**«Известия» (Расія)**

Беларусь пайшла ў Мытны саюз у складаны для сябе эканамічны перыяд, калі перажывала фінансавы крызіс. За падатлівасць патрабаванням Крамля Беларусь атрымала эканамічныя прэферэнцыі, танныя энерганосьбіты, крэдыты Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. Але эксперты ўпэўненыя, што гэта дапамога не пайшла на мадэрнізацыю эканомікі, яе хапіла толькі на падтрымку рэжыму Лукашэнкі і на пэўнае паляпшэнне настрояў у грамадстве, якія панавалі пасля фінансавага абвалу 2011 года.

**BBC (Вялікабрытанія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІСПАНІЯ. НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ КАТАЛОНІІ ПЕРАНОСІЦЦА?

13 кастрычніка Рамон Эспадалер, дырэктар каталонскага МУС, паведаміў, што прызначаны на 2014 год плебісцыт наконт абвяшчэння Каталоніі незалежнай дзяржавай можа не адбыцца. Паводле яго слоў, урад думае перанесці ўсеагульнае апытанне на 2015 год. Такое рашэнне матывавана неабходнасцю знайсці агульную мову з Мадрыдам. Барселона хоча, каб Мадрыд прызнаў вынікі рэферэндуму, а для гэтага неабходна згода цэнтральнага ўраду на яго правядзенне. Заява, як і трэба было чакаць, раз'юшыла нацыяналістаў, якія пабачылі тут здраду справе незалежнасці. Яны звязваюць словы міністра з маніфестацыяй «Мы ўсе каталонцы! Мы ўсе іспанцы!», якую напярэдадні, 12 кастрычніка, правялі ў Барселоне праціўнікі сепаратызму. Акцыя каталонскага Інтэрфронту сабрала каля 20 тысяч чалавек, сярод якіх было прыкладна 500 актывістаў іспанскіх ультраправых груповак. Выступоўцы ад гэтых ініцыятыў заявілі, што гатовыя ў выпадку абвяшчэння незалежнасці пачаць «крывавую барацьбу» за адзінства іспанскай дзяржавы.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. СААКАШВІЛІ ВЫРАТУЮЦЬ ДАНТЫСТЫ

Нацыянальны рух Грузіі (Партыя Міхаіла Саакашвілі) нечакана знайшоў тэму, якая, на думку шмат каго, можа даць яму шанс вярнуцца ва ўладу. Гэтая тэма — стаматалогія. Аказваецца, незадоўга да выбараў мінулага года парламент прыняў праграму «Грузія, якая ўсміхаецца». Яе сутнасць — уставіць бясплатна зубы ўсім грузінам старэй за 50 гадоў. Аднак пасля перамогі на леташніх выбарах апаненты Саакашвілі вырашылі замарозіць праграму з-за недахопу грошай. За гэта адразу ўхапіліся прыхільнікі Саакашвілі, якія вінавацяць новы рэжым у тым, што з-за змены ўраду грузінскія пенсіянеры будуць без зубоў. Між тым, на думку новага прэм'ера Іванішвілі, той стаматалагічны праект быў проста перадвыбарчай піяр-акцыяй, якую Саакашвілі і не думаў выконваць. Да падобных піярных хадоў Іванішвілі адносіць і праект пераносу парламенту ў Кутаісі. Паводле яго слоў, цяпер відавочна, што грошай на будаўніцтва будынку парламенту ў бюджэце няма, і парламент давядзецца зноў пераносіць з Кутаісі ў Тбілісі.

**Паводле грузінскай прэсы**

### УКРАІНА. АБВІНАВАЧВАЕЦЦА КРАСВОРД

Абсалютна экзатычную справу вядуць следчыя МУС Днепрапятроўска. Міліцыянеры спрабуюць знайсці тых, хто склаў красворд для мясцовай газеты «Заря-город». У выпуску «Заря-город» ад 14 жніўня змешчаны красворд, які чамусьці называецца «эстонскім». У адным з пытанняў чытачам прапануюць ўзгадаць «сталіцу хахлоў» з 4 літараў. Ніжэй на паласе апублікаваныя правільныя адказы. Адказ на гэта пытанне — «Кіеў». Такая правакацыя не прайшла міма ўкраінскіх патрыётаў, якія патрабавалі ад адпаведных структур распачаць крымінальную справу па артыкулу «Абраза нацыянальнай годнасці». Пра тое, што публікацыя не выпадковая, на думку грамадзян, сведчыць дата выпуску. Газета з ксенафобскім красвордам выйшла літаральна напярэдадні Дня незалежнасці Украіны. Пакуль міліцыя абмежавалася тым, што перадала красворд на экспертызу спецыяльнай камісіі. Калі эксперты прызнаюць фразу «сталіца хахлоў» экстрэмісцкай, аўтару красворда пагражае крымінальны артыкул.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. «РУХ ПАЛІКОТА» ЗМЯНІЎ НАЗВУ




У Варшаве адбыўся кангрэс партыі «Рух Палікота», на якім было прынята рашэнне пра змену назвы праекту. Нагадаем, што партыя «Рух Палікота» была створаная ў 2010 годзе алігархам Янушам Палікотам і здолела праз год правярыцца ў парламент, атрымаўшы 10 працэнтаў. Цяпер «Рух Палікота» вырашылі раскусціць, каб заснаваць новую партыю, якой далі назву "Твой рух". Праўда, гэта не проста тэхнічны рэбрэндынг. Сузаснавальнікамі «Твайго руху» выступілі левыя групоўкі, што, на думку аналітыкаў, сведчыць пра намер Палікота выціснуць з левага флангу посткамуністычны «Саюз левых дэмакратаў» (SLD). На карысць гэтага кажа і намер Палікота сфармаваць кааліцыю «Еўропа Плюс» з Аляксандрам Квасневускім, былым прэзідэнтам і лідарам SLD, які нядаўна пасварыўся з аднапартыйцамі. Праўда, перад тым, як фармаваць нейкія кааліцыі, Палікоту патрэбна вырашыць адну балючую праблему. Справа ў тым, што Палікота цягнуць у суд за плагіят. Аказваецца, у Польшчы даўно існуе фонд пад такой жа назвай, які ў дадатак пазіцыяніе сябе як кансерватыўна-хрысціянскі. Дырэктар гэтага фонду кажа, што супадзенне назваў можа дыскрэдытаваць яго ўстанову, паколькі палікотаўцы выступаюць за легалізацыю марыхуаны і дэклерыкалізацыю грамадства.

**Паводле польскай прэсы**

ДАКТРЫНЫ І ЖЫЦЦЁ




# АГОНІЯ ЛІБЕРАЛІЗМУ

*Алег НОВІКАЎ*

**Пасля таго, як нямецкія лібералы ўпершыню ў гісторыі не трапілі ў парламент, у краіне пачалася дыскусія наконт будучыні ліберальнай дактрыны ў XXI стагоддзі.**

Гісторыя рухаецца надзвычайна і хутка. Яшчэ гадоў 15 таму ўсе штудзіравалі «Канец гісторыі» Фрэнсіса Фукуямы пра канчатковы прыход эры лібералізму. А цяпер, пасля краху на выбарах у Германіі, ужо самі лібералы задумаліся — ці не спіша новае стагоддзе іх у палітычны ўтыль? Лібералізм не карыстаецца попытам. Нагадаем, што Партыя свабодных дэмакратаў, або FDP, набрала на выбарах 4,6 працэнта галасоў, хаця на папярэдніх выбарах у іх было больш за 14 працэнтаў.

Праўда, некаторыя палітолагі адмаўляюцца ставіць пытанне так глабальна. Па словах аптымістаў, 22 верасня мела месца толькі параза канкрэтнай партыйнай структуры, а не ўсёй ліберальнай дактрыны. Быццам, нямецкіх свабодных дэмакратаў увогуле цяжка называць чыстымі лібераламі ў ідэйным плане. Напрыклад, якім бокам пасуе ідэям Адама Сміта і Жан Жака Русо салідарнасць з Садамам Хусейнам — такую лінію праводзіла FDP на пачатку нулявых, калі ёй кіраваў Юрген Мёлеман.

Па-другое, ёсць шмат прэтэнзій да ўжо былога старшыні партыі Філіпа Ростлера, які вёў FDP на апошнія выбары. Праўда, хутчэй крытыкуюць не саму выбарчую кампанію пад кіраўніцтвам Ростлера, а вынікі знаходжання лібералаў у кааліцыі з партыяй Меркель. У выніку аказалася, што за ўвесь час знаходжання ў складзе кабінета лібералы здолелі працягнуць ад сябе толькі адзін закон — пра зніжэнне падаткаў для гатэляў. Гэта адразу зрабіла ім імідж кліенцкай партыі, якая не здольная змагацца за тое, што абяцае выбаршчыку.

Аднак глабальныя пытанні так ці інакш усё роўна ўзнікаюць. Галоўнае з іх — як разумеюць ідэю асабістай і эканамічнай свабоды — краевугольны камень лібералізму — людзі нашага часу. Абсалютную перамогу на апошніх выбарах атрымалі партыі, якія выступаюць за мадэль моцнай дзяржавы і за абмежаванне рынку.

Адзінае, што можа пацешыць лібералаў, — гэта відавочная супярэчнасць. Цяперашняя дзяржава, наадварот, намагаецца сысці са шматлікіх сфер грамадскай дзейнасці. У выніку ўзнікае парадокс, які фармулюе наступнае больш правакацыйнае пытанне. Калі электарат хоча моцнай дзяржавы, а дэмакраты яе даць не гатовыя, ці не звернуць увагу выбаршчыкі на аўтарытарныя палітычныя канцэпты?

Аднак вернемся да лібералаў, якім трэба шукаць сваю нішу ва ўмовах татальнага панавання этатысцкіх тэорый. Спробаў сфармуляваць адказ на выклік часу таксама хапае. Ад самых радыкальных — увогуле адмовіцца ад удзелу ў выбарах, каб вярнуць у шэрагі лібералаў ваяўнічы антыэтатысцкі дух, які, быццам, выветрыўся за 64 гады знаходжання FDP ва ўладных інстытутах. Да абсалютна капітулянцкіх — ліквідаваць партыю і шукаць прытулак як фракцыя ў лоне кансерватараў або Зялёных.

Асабліва шмат кажуць пра магчымую лібералізацыю Зялёных. Для гэтага шмат прычын. Па-першае, Зялёныя — адзіная вядучая партыя Германіі, чый праект патрабуе не пашырэння, а, наадварот, скарачэння палітычнай ролі цэнтру і функцыі дзяржавы ў сферы эканомікі. Па-другое, перад тым, як у 1979 годзе паўстала партыя Зялёных, продкі цяперашніх эколагаў спрабавалі стварыць фракцыю ўнутры FDP за кошт захопу мясцовых секцый.

Нарэшце, самі Зялёныя (прынамсі іх частка) не супраць заняць вакантнае месца партыі цэнтру. Цяперашняя ніша Зялёных (у палітычным спектры) — партыя лявей эсдэкаў, аднак правей за камуністаў — вельмі не зразумелая і, на думку шмат каго, у працяглым часе бесперспектыўная. «Месца цэнтрысцкай базіснай дэмакратычнай партыі, якая абараняе грамадзянскія свабоды, цяпер вольнае», — увесь час кажа адзін з зялёных лідараў Катрын Гёрынг-Экарт.

Цяжка сказаць, наколькі верагодная міграцыя Зялёных у палітычны цэнтр, аднак уся гэтая дыскусія стварае адпаведны фон для цяперашніх кансультацый аб стварэнні ўраду. Як вядома, пасля таго, як правяліся перш раунд перамоваў з удзелам эсдэкаў, Ангела Меркель спрабуе дамовіцца з Зялёнымі.

Таксама часткай лібералаў разглядаецца ідэя пераждаць цяжкія для FDP часы пад дахам кансерватараў. Стварэнне ліберальнага крыла ўнутры хрысціянска-дэмакратычнага саюзу (CDU), быццам, узмацніць самаідэнтычнасць партыі адносна больш кансерватыўнага хрысціянска-сацыяльнага саюза (CSU).

Як не дзіўна, аднак варыянт таго, што лібералізм не будзе мець сваёй палітычнай вітрыны, цалкам рэальны з улікам паслявыбарчых дэбатаў сярод свабодных дэмакратаў. Частка з іх (групоўка былога міністра фінансаў Франка Шафлера) лічыць перспектыўнай эксплуатацыю тэмы незадавальнення немцаў знаходжаннем краіны ў складзе Еўразоны. Іх натхняе трыумфальны старт маладой партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD). На патрабаваннях за выхад ФРГ з зоны еўра палітычныя неафіты атрымалі 4,9 працэнтаў.

440 тысяч выбаршчыкаў «Альтэрнатывы для Германіі» на папярэдніх выбарах галасавалі за лібералаў. Таму Шафлер мае намер вярнуць іх за кошт стварэння нечага накшталт AfD-light. Гэта значыць, што FDP не будзе, як «Альтэрнатыва для Германіі», выступаць за вяртанне нямецкай маркі, а толькі за тое, каб замарозіць дапамогу ў зоне эўра краінам-банкрутам. Антыеўрапейская рыторыка выклікала шок у старой гвардыі. Пра свой намер пакінуць яе шэрагі заявіў Ханс-Дзітрых Геншэр, легендарны экс-міністр замежных спраў ФРГ часоў Гельмута Коля.

Праўда, частка партыі назвала заяву Геншэра шантажам і замахам на свабоду выказвання думак унутры партыі. Гэта яшчэ больш падліла алею ў полымя. Упершыню ў нямецкай прэсе кажуць пра магчымы раскол FDP, што можа паставіць крыж на партыі, якая вядзе сваю гісторыю з сярэдзіны XIX стагоддзя.

Праціўнікам Шафлера выступае Крысціян Ліндер — лідар лібералаў зямлі Ніжні Рэйн-Вестфалія. Хутчэй за ўсё, на бліжэйшых партыйных зборах яму і даручаць стаяць за партыйным штурвалам.

Але пакуль яго альтэрнатыва еўраскептыкам не вельмі зразумелая. Ліндер кажа пра неабходнасць аднавіць сталыя кантакты з грамадзянскім рухам і рэабілітаваць імідж партыі сярод жанчын. Гэты летам партыя стала ахвярай буйнога скандалу, калі адзін з яе рэгіянальных баронаў спрабаваў заляцацца ў бары да журналісткі, што пазней выклала гэтую гісторыю ў СМІ.

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# ІЛЬХАМ ТРЭЦІ

**На чарговых выбарах у Азербайджане прэзідэнтам зноў стаў Ільхам Аліеў. Пра некаторыя аспекты элегантнай перамогі па-бакінску журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з азербайджанскім прафесарам Намікам Мамадавым.**



Феномен карупцыі і кланавасці ў нас не з'яўляецца чымсьці адмоўным. Таму альтэрнатыўная аліеўскай палітычная надбудова не будзе падобная на мадэль заходняй дэмакратыі

***— Паводле падлікаў ЦВК Азербайджана, за Ільхама Аліева прагаласавала 3 мільёны 118 тысяч 287 выбаршчыкаў (84,59%). Адзінаму кандыдату ад апазіцыі Джамілю Гасанлы давер аказалі крыху больш за 205 тысяч чалавек. Вы верыце гэтым лічбам?***

— Я быў сябрам камісіі на адным са сталічных участкаў. На маім участку за дзень прагаласавала недзе паўтары тысячы чалавек. Аліеў атрымаў каля 1200 галасоў. Прыкладна 140 чалавек прагаласавалі за кандыдата ад апазіцыі. Думаю, што нават калі фальсіфікацыі і былі, яны не вельмі моцна паўплывалі на фінальны вынік. Перамога Аліева была прадказальнай па настроях у грамадстве.

***— Аднак на пачатку года ў шэрагу раённых цэнтраў адбыліся масавыя беспарадкі. Шмат хто казаў, што гэта знак пачатку заняпаду рэжыму Аліева. Канчатковы крах сістэмы быў прызначаны на дзень галасавання.***

— Тыя беспарадкі хутчэй дапамаглі дзяржаўнай прапагандзе кансалідаваць электарат вакол фігуры Аліева. Па сутнасці, палітычнага складніку тыя пратэсты не мелі. Гэта былі лакальныя бытавыя бунты, фактарам якіх ёсць перш за ўсё высокае беспрацоўе (каля 40 працэнтаў) сярод правінцыйнай моладзі. Вельмі часта, каб выжыць, маладыя ідуць у вулічны крымінал, што прыводзіць да пастаянных канфліктаў з законам. Адпаведна, галоўным лозунгам згаданых бунтаў быў «бей мянтоў». Аднак карцінкі на тэлебачанні з вывяай пагромаў муніцыпалітэтаў і пастарункаў выклікалі ў грамадстве ўспаміны пра брутальныя 1990-я гады. Алеўская прапаганда зляпіла з прэзідэнта галоўнага гаранта асабістай бяспекі кожнага. І гэта спрацавала.

***— Джаміль Гасанлы з'яўляецца выкладчыкам гісторыі дзяржаўнага ВНУ і пры гэтым, будучы галоўным апазіцыянерам, захаваў сваё месца працы. Гэта вельмі дзіўна, калі сыходзіць з беларускай практыкі. Таксама нашыя ўлады любяць піяр-кампаніі па дыскрэдытацыі апазіцыянераў. У вас падчас апошніх выбараў назіралася нешта падобнае?***

— Сапраўды, на Гасанлы быў выкінуты кампрамат пра тое, што калісьці ён падробіў даведку пра сваю інваліднасць. Дзякуючы гэтаму цяпер ён, быццам, атрымлівае дадатковую грашовую дапамогу. Аднак я не сказаў бы, што гэта была буйная кампанія. Магчыма, трэба сказаць, што касцяк лідараў нашай апазіцыі — гэта былыя функцыянеры ненавіснага ім рэжыму. Той жа Гасанлы і іншы раскручаны апазіцыянер Рустам Ібрагімбекаў (рэжысёр стужкі «Белае сонца пустыні) яшчэ нядаўна нармальна ладзілі з Аліевым. Іншая фракцыя апазіцыянераў — гэта тыя, хто быў звязаны з адміністрацыяй Народнага Фронту, які кіраваў краінай на пачатку 1990-х гадоў. Будучы панцюркістамі, яны карыстаюцца пэўнай падтрымкай турэцкіх палітыкаў, і іх таксама не вельмі чапаюць. У сапраўдным канфлікце з уладай знаходзяцца толькі ісламскія радыкалы. І гэта праблема з кожным годам становіцца ўсё больш актуальнай.

***— Калі аналізаваць агітпроп, можна заўважыць, што значнае месца ў ім адводзіцца жонцы Аліева Мехрыбан. Улетку нават казалі, што яе рыхтуюць у пераемнікі мужу на пасадзе прэзідэнта.***

— Мехрыбан Аліева мае дэпутацкі мандат і ўваходзіць у кіраўнічыя структуры афіцыйнай партыі «Yeni Azerbaycan» («Новы Азербайджан»), аднак хутчэй яе можна бачыць не на палітычных акцыях, а на рознага кшталту дабрачынных мерапрыемствах. Яна, як вядома, адказная за працу Фонду імя Аліева. Не думаю, што (прынамсі пакуль) людзі бачаць у ёй перспектыўнага палітыка. Азербайджанцы больш абмяркоўваюць фасоны яе вопраткі. Мехрыбан надае перавагу вестрэрнізаваным касцюмам, што не падабаецца кансерватыўнай частцы насельніцтва.

***— Прэса пісала пра тое, што Джаміль Гасанлы атрымаў сродкі на сваю кампанію ад азербайджанскай дыяспары Масквы. Ці вядзе амаль мільённая дыяспара азербайджанцаў у Расіі нейкую палітычную гульню на радзіме?***

— Што тычыцца дыяспары азербайджанцаў у Расіі, то яна наўрад ці здольная весці самастойную гульню. Эміграцыя вельмі асцярожная, паколькі разумее, што цалкам залежыць ад Крамля. Між тым, зараз у Пуціна дастаткова роўныя адносіны з Баку.

Пра гэта таксама можна казаць у сувязі з уступленнем Арменіі ў Мытны саюз. Азербайджану нічога такога не прапануецца, паколькі ў Маскве ведаюць, што Азербайджан не ўступае ў міжнародныя структуры, у якіх прысутнічае Арменія. Такія ж роўныя адносіны ў нас з Захадам. Тое, што дэлегацыя ПАСЕ не знаходзіць вялікіх парушэнняў на нашых выбарах, цалкам зразумела з улікам таго, што галоўным азербайджанскім нафтавым апаратарам з'яўляецца брытанская кампанія «British Petroleum». На Захадзе, як і ў Маскве, не зацікаўленыя ў палітычным хаосе на Каспіі.

***— У мінулым годзе шмат казалі пра магчымы канфлікт Азербайджана і Ірана. Азербайджанская прэса пісала пра праблему азербайджанцаў, якія кампактна жывуць ў Паўночным Іране. Іран пагражаў перагледзець Туркманчайскі трактат 1828 года, адпаведна якому землі цяперашняга Азербайджана пераходзілі ад Ірану да Расіі. Як развіваецца сітуацыя пасля абрання новага прэзідэнта Ірану?***

— Мяркую, што з'яўляецца перабольшаннем казаць пра крызіс у азербайджана-іранскіх адносінах. Антыіранская і адпаведная антыазербайджанская істэрыка характэрная для радыкальных маргінальных палітыкаў і блізкіх да іх СМІ. Нельга казаць пра якаснае пагаршэнне ўзаемнага дыялогу абодвух краін. Аднак у рэгіёне сапраўды не вельмі спакойна. Ходзяць плёткі пра магчымую вайну ЗША з Іранам з-за атамных амбіцый апошняга. Яшчэ нядаўна азербайджанцаў вельмі непакоілі навіны з Турцыі, дзе адбываліся буйныя антыўрадавыя маніфестацыі. Паколькі Турцыя — наш галоўны партнёр, усе баяліся дэстабілізацыі ў гэтай краіне. Праз саюзную Турцыю, якая падтрымлівае сірыйскую апазіцыю, Азербайджан аказаўся ўцягнуты сірыйскі крызіс. Відавочна, што нестабільнасць на Блізкім Усходзе можа адбіцца на эканоміцы і палітыцы ў нашай краіне.

***— Унутранага чынніку для змены рэжыму вы не назіраеце?***

— Незадаволенасць ёсць. Людзі вельмі занепакоены ростам уплыву аліеўскага так званага нахічаваньскага клану, які па сутнасці пераўтварыў краіну ў свой феод. Іншыя кланы не задаволеныя экспансіяй на іх зоны ўплыву. Гэта стварае галоўную глебу для незадавальнення. Не падабаецца і палітыка расходаў нафтадолараў. Ніхто не кансультуецца з народам, як і нашто іх выдаткоўваць. Зараз, напрыклад, чамусьці вялікія сродкі ідуць у будаўніцтва спартовай інфраструктуры. Праблема, аднак, у тым, што для азербайджанскага грамадства характэрныя вельмі моцныя традыцыйныя забабоны. Феномен карупцыі і кланавасці не з'яўляецца для большасці чымсьці адназначна адмоўным. Таму ўсялякая альтэрнатыўная аліеўскай палітычная надбудова не будзе падобная на мадэль заходняй дэмакратыі. А якой яна будзе дакладна, і ці будзе лепшай, прагназаваць цяжка. Напэўна, таму азербайджанцы і абіраюць Аліева, хаця яго сапраўды вельмі шмат і моцна крытыкуюць.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### НІКОЛА ГРУЕЎСКІ



Прэм'ер Рэспублікі Македонія можа пачаць працэс перайменавання краіны. Так сцвярджае прэса, аналізуючы шансы Македоніі ў пяты раз дабіцца ад Брусэля пачатку перамоваў аб прыняцці краіны ў склад ЕС. Рашэнне, якое павінна быць прынятае на днях, перш за ўсё залежыць ад пазіцыі Грэцыі, якая раней ужо неаднаразова блакавала працэс еўраінтэграцыі Македоніі. Прычына старая — у Афінах мяркуюць, што Македонія не мае нічога агульнага з сапраўднай Македоніяй, якая знаходзіцца на тэрыторыі Грэцыі. У такой сітуацыі Груеўскі, быццам, прапанаваў грэкам кампраміс. Калі грэкі падтрымаюць Македонію ў Еўракамісіі, яго край будзе называцца Горная Македонія. Ці пагодзяцца ў Афінах на такі варыянт, пакуль цяжка сказаць. Зразумела толькі адно: пошукі кампрамісу ўжо прывялі да росту нацыяналістычных настрояў у самой Македоніі. Самае цікавае, што згода грэкаў можа абудзіць геапалітычныя апетыты ў суседняй Балгарыі. Балгары гатовыя прабачыць македонцам тое, што трэцяя частка гістарычнай Македоніі знаходзіцца на тэрыторыі Балгарыі, аднак намякаюць, што македонцы павінны прызнаць сябе балгарамі.

### АЙНІХОЛ БАБАНАЗАРАВА



Сябра Партыі ісламскага адраджэння Таджыкістану, кандыдат ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 6 лістапада сышла з выбарчай гонкі пасля таго, як здолела сабраць усяго 201 тысячу подпісаў у падтрымку сваёй кандыдатуры (каб атрымаць рэгістрацыю, патрэбна 205 тысяч). Кажучы пра прычыны сваёй няўдачы, праваабаронца спасылаецца на ціск з боку ўладных структур. Адмова ў рэгістрацыі Айніхол канчаткова пазбавіла выбары інтрыгі. Усе дружна прагназуюць чарговую перамогу Эмамалі Рахмона, якому для фармальнасці падабралі аж пяць канкурэнтаў-статыстаў. Хаця нейкая інтрыга захавалася. Яна заключаецца ў пытанні, як будзе ўлада разбірацца з апазіцыяй пасля выбараў. Ужо ёсць чуткі пра магчымую забарону Партыі ісламскага адраджэння Таджыкістану, што стане сапраўднай падзеяй для ўсяго СНД. Справа ў тым, што гэтая партыя — адзіная ісламская партыя, зарэгістраваная ў былым СССР. Прычым яе правы замацаваныя ў таджыкскай канстытуцыі, якая была прынятая пасля грамадзянскай вайны 1990-х гадоў. Аднак, здаецца, на такія моманты цяпер у Душанбэ звяртаць увагі не будуць. На днях лідару ісламістаў прыгразілі крымінальнай справай за абразу сталічных уладаў.

### МІШЭЛЬ АБАМА

Першая лэдзі ЗША лічыць сябе адной з галоўных ахвяр цяперашняга фінансавага крызісу, які паралізаваў дзейнасць дзяржаўных установ. На працу не выходзілі таксама і садоўнікі Белага дому, што стала пагрозай не толькі для газонаў і лужкоў, аднак і для раслін, якія пасадзіла тут Мішэль. Як вядома, яна курыруе кампанію супраць атлусцення амерыканцаў, прапагандуючы ўжываць не мяса, а садавіну. Не апошнюю ролю ў рэкламе здаровага ладу жыцця гуляе той агарод, які зрабіла Мішэль. Аднак цяпер з-за адсутнасці персаналу над ім навісла пагроза. Таксама не весела выглядае увесь парк вакол рэзідэнцыі прэзідэнта, які раскінуўся на прыблізна 500 квадратных метраў. Каб неяк выратаваць парк, першая лэдзі вырашыла правесці суботнік з удзелам дзяцей, якія павінны дапамагчы ёй прыбраць смецце. Яшчэ адна незвычайная праблема для сям'і Абамы, які вымушаны практычна сваімі сіламі сачыць за комплексам, — гэта вавёркі. З-за таго, што людзей на тэрыторыі Белага дома не так шмат, вавёркі, па словах сведкаў, апошнім часам паводзяць сябе вельмі агрэсіўна.



ПРЭМІЯ

# ВАКАЦЫІ ПРАФЕСАРА НІЛЬСА

## ЯК ДАМАГЧЫСЯ БЕЛАРУСКАГА НОБЕЛЯ ПА ЛІТАРАТУРЫ?

Марыя МАРТЫСЕВІЧ

**Любы пісьменнік раней ці пазней сутыкаецца з сяброўскім пажаданнем або журналісцкім пытаннем, датычным Нобелеўскай прэміі. Ці марыце вы атрымаць яе, калі не, то чаму, а калі так — то памагай Божа! Нібы толькі гэтая знакамітая ўзнагарода можа прымірыць навакольных з фактам, што ты нешта там пішаш, давесці ім, што ты чагосьці варты.**

Але, што тычыцца мяне, мае мары і памкненні, звязаныя з запаветным Нобелем па літаратуры, крыху іншыя, чым у многіх маіх калег па пяры. Мая мара — не атрымаць Нобеля. Мая мара — вырашаць, хто яго атрымае.

### Я і прафесар Нільс

Таму што мара — яна на тое і мара, каб быць недасяжнай. Бо — чыста тэарэтычна — Нобель можа здарыцца з любым чалавекам у свеце. Значна меншая колькасць людзей мае шанец стаць сябрам Шведскай акадэміі, васямнаццаць акадэмікаў якой праводзяць паўгода ў чытанні добрых кніжак, апантана спрачаючыся, хто з намінантаў найбольш варты. У сваіх марах я ўяўляю сябе не Дорыс Лесінг ці Мо Янем. У сваіх марах я — які-небудзь абстрактны прафесар Нільс — сівы гісторык літаратуры.

Мараператварыцца ў прафесара Нільса з'явілася ў мяне адносна нядаўна, калі па волі лёсу мне давялося падрабязна вывучыць парадак вылучэння пісьменніка на Нобелеўскую прэмію.

Нескладаная бюракратычная працэдура пасяліла ўва мне сур'ёзныя сумневы: а ці разумеюць беларускія аналітыкі ад культуры, наколькі нерэальны на сённяшні беларускі літаратурны Нобель? Ці ўсё-ткі «нобелеўскі ажыятаж», які распачынаецца ў кастрычніку ў айчынных СМІ — гэта свядомае запаўненне інфармацыйнага поля фальшывай надзеяй на лепшае? Гэткі наўмысны самападман?

Падставай для сумневаў паслужыў сусветна вядомы дакумент — назаву яго Парадак прэміі, апублікаваны на сайце svenskaakademien.se. Як паказалі некаторыя мае міжнародныя знаёмствы, дакумент гэты літаратурныя функцыянеры свету ведаюць фактычна напамяць.

Учытаемся ў яго і мы.

### Таямнічыя намінанты

Паводле Парадку прэміі, самога сябе намінаваць на Нобеля немагчыма. Нобелеўскі камітэт, які выбіраецца, не раўнуючы як той парламент, на тры-чатыры гады і складаецца з чатырох-пяці сакратароў, прымае да разгляду заяўкі на намінацыю таго ці іншага літаратара, падпісаныя аўтарытэтнымі персонамі. Такімі, паводле Парадку, ёсць чатыры групы асобаў. Міма першых дзвюх пралятаем — сярод беларусаў няма сябраў Шведскай акадэміі і (пакуль што) Нобелеўскіх лаўрэатаў. Такім чынам, засталіся дзве групы «літаратурных аўтарытэтаў» — гэта шэфы пісьменніцкіх арганізацый (у Беларусі на сёння, у алфавітным парадку — Барыс Пятровіч, Андрэй Хадановіч, Мікалай Чаргінец) і, у перакладзе на нашыя рэаліі, дактары філалагічных навук, працаўладкаваныя ва ўніверсітэтах (даслоўна — «прафесары мовы і гісторыі літаратуры з універсітэтаў і ўніверсітэцкіх каледжаў»).

Намінацыйныя паперы мусяць прыйсці ў Стакгольм да 31 студзеня кожнага года. Перш, чым даслаць запаветную тэчку ў Шведскую акадэмію, трэба прычакаць афіцыйнага запрашэння. Надрукаванае на прадстаўнічай паперы з цісненнем, яно сягае акрэдытаваных шведамі асобаў у кастрычніку або лістападзе. Гэта — сігнал, што можна.

Далей — справа тэхнікі: біяграфія і бібліяграфія намінанта па-англійску, а таксама матывацыйны ліст, які тлумачыць, чаму намінант варты прэміі) з подпісам «аўтарызаванага аўтарытэта». Недзе перад Новым годам заяўку варта выправіць у Швецыю.

Мінае Новы год. І, па беларускай традыцыі, адбываецца грубае парушэнне нобелеўскага Парадку, паводле якога «намінацыя — справа абсалютнай сакрэтнасці як з боку асобы, якая намінуе, так і з боку Нобелеўскага камітэту».

Варта прыгадаць гучныя загалоўкі нашых зімовых навінаў: «Пісьменнік N. намінаваны на Нобелеўскую прэмію». З гледзішча арганізацый, якія паважаюць Парадак, такія абвесткі гучаць некарэктна і нават правінцыйна.

### Літаратурныя чысткі

Але вось заяўка сягнула Стакгольму. І тут на сцэну выходзіць ён — прафесар Нільс, скажаце вы. Але трасцы! Прафесар Нільс святкуе Каляды. Або піша свае літаратуразнаўчыя эсэ. Або катаецца з унукамі на санках, або адпачывае ў цёплых краях. Заяўка трапляе ў Нобелеўскі камітэт, дзе дбайна апрацоўваецца.

Вось дзе-дзе, а ў Нобелеўскім камітэце я працаваць не хацела б. Бо сакратарам спачатку трэба даслаць 600–700 запрашэнняў ва ўсе бакі свету, потым адказаць праз мэйл на шматлікія пытанні з розных краінаў, потым за кароткі час верыфікаваць прыкладна 350 заявак. Адсеяць падпісаныя «неаўтарытэтамі». Потым — скласці ліст намінантаў.

З улікам таго, што некаторых аўтараў прапануюць адразу некалькі аўтарытэтных асобаў, у такі спіс трапляе да 200 пісьменнікаў. «Вядома ж, калі аўтара А. прапанавала толькі адна асоба, а аўтара Х. — дваццаць, гэта дадае аўтару Х. дадатковай вагі», — пераконвае мяне мэйл з Нобелеўскага камітэту.

Шведская акадэмія зацвярджае папярэдні ліст з 200 намінантаў і вяртае яго сакратарам прэміі.

І вось Нобелеўскі камітэт з дапамогай сваіх экспертаў пачынае крэсліць папярэдні ліст, і яго большая частка адсейваецца адразу ж.

Выкрэсліваюць навуковыя працы, а таксама «папсу» — аўтараў кніг з вялікімі накладамі, але сумнеўнай літаратурнай якасцю. І — самае непрыемнае для беларусаў — выкрэсліваюць аўтараў, «намінаванне якіх магло быць выкліканае любымі іншымі прычынамі, апроч мастацкіх — палітычнымі, нацыяналістычнымі або ідэалагічнымі».

Паводле маіх назіранняў, беларускія ініцыятывы па высоўванні суайчыннікаў на Нобеля адбываюцца менавіта па палітычных, нацыяналістычных або ідэалагічных прычынах.

І ў гэтым, дарэчы, галоўная прэтэнзія, якую высоўвае Шведскай акадэміі свет. Ці магчыма ўвогуле разглядаць літаратуру ў адрыве ад грамадскіх працэсаў, ад тэндэнцый сучаснасці, як «рэч у сабе»? Калі аўтар піша хораша, але гэта непатрэбна нікому, апроч прафесара Нільса, — у чым тады сэнс?

Але тут Шведская акадэмія можа апеляваць да іншага важ-

### Першы (1901 г.) і апошні (2013 г.) лаўрэаты літаратурнага Нобеля

Рэнэ Франсуа Арман Прудом, вядомы таксама пад імем Сюлі Прудом (1839–1907) — французскі паэт і эсэіст. Узнагароджаны з фармулёўкай: «За выбітныя літаратурныя дабрачыннасці, асабліва ж за высокі ідэалізм, мастацкую дасканаласць, а таксама за незвычайнае адзінства душэўнасці і талента, аб чым сведчаць яго кнігі».





Эліс Манро, канадская пісьменніца. Узнагароджана з фармулёўкай: «Майстру сучаснага апавядання».

Усяго прэміяй Альфрэда Нобеля па літаратуры за 112 гадоў (за выняткам 1914, 1918, 1935 і 1940–1943 гг.) было ўзнагароджана 106 пісьменнікаў і паэтаў.




### Першы і апошні лаўрэаты літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы

Прэмія была заснавана пастановай Савета Міністраў БССР у 1957 годзе, у 1965 годзе ёй быў нададзены статус дзяржаўнай прэміі БССР, з 1991 — Рэспублікі Беларусь. Прысуджалася «за высокаідэйны і высокамастацкі зборнік вершаў, паэму, мнагаактавую п'есу».

Першым лаўрэатам гэтай прэміі ў 1959 годзе стаў паэт Пімен Панчанка (1917–1995 гг.) за паэму «Патрыятычная песня». Апошнім, у гістарычных рамках менавіта БССР, у 1990 годзе — Алесь Разанаў за кнігу паэзіі «Вастрыё стралы».



Пімен Панчанка

Парадаксальна, але першы лаўрэат савецкай літаратурнай прэміі Пімен Панчанка напрыканцы 1980 — пачатку 1990-х вылучыўся як адзін з найбольш апантаных прыхільнікаў дэмакратычных пераўтварэнняў і незалежнасці Беларусі. І не дзіўна, што апошнім (25-м па ліку) бээсэсэраўскім лаўрэтам гэтай прэміі, на хвалі дэмакратычнага аднаўлення, стаў Алесь Разанаў — паэт і філосаф свабоды, творца новых форм. Падобна на тое, што талент і вальнадумства існуюць у непарушнай унутранай сувязі і здольны супрацьстаяць аўтарытарнаму дыктату. Пасля, з 1992 па 2000 год, прэмію Янкі Купалы атрымалі яшчэ 6 чалавек. З 2000 года прэмія не прысуджалася нікому.



Алесь Разанаў

### Беларускія пісьменнікі — лаўрэаты міжнародных прэмій



Святлана Алексіевіч, лаўрэат польскіх прэмій: Рышарда Капусцінскага і «Ангелус» (2011 г.), нямецкай прэміі кнігавыдаўцоў (2013 г.)



Уладзімір Някляеў, лаўрэат шведскай прэміі Курта Тухольскага (2011 г.)



Уладзімір Арлоў, лаўрэат прэміі «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010 г.)

нага дакумента — тэстамента Альфрэда Нобеля. Паміраючы, прамысловы магнат пастанавіў, што прэмія па літаратуры будзе ўручацца «аўтару найбольш выбітнага літаратурнага твору». На ўсе астатнія гуманітарныя выпадкі ён прыдумаў прэмію міру.

## Казус Набокава

Нельга не звярнуць увагі і на папярэджанне Шведскай акадэміі адносна добра прадаванай у свеце літаратуры. Бо любы тэарэтык (і мой прафесар Нільс — першы сярод іх) пацвердзіць: масам не можа падабацца сапраўды якаснае. Спрачаемся, Уладзімір Набокаў быў абдзелены ўвагай Ноблеўскага Камітэта праз посьпех «Лаліты», якая зрабіла яго пісьменнікам, культавым у свеце. Гэтак жа даўнія фаварыты букмекераў Боб Дылан, Умберта Эка і Харукі Муракамі — хутчэй вечныя намінанты менавіта праз празмерную чытацкую ўвагу да іх.

З поспехам «вечных намінантаў» можна параўнаць і высокія стаўкі ў букмекерскіх канторах пісьменніцы Святланы Алексіевіч — упершыню ў яе кар'еры. Рэч у тым, што менавіта апошні год і менавіта верасень-кастрычнік 2013-га — вельмі паспяховы для Алексіевіч на заходнім рынку літаратуры. Ён звязаны з папулярнасцю яе кнігі «Час сэканд-хэнд» у Нямеччыне і Швецыі. Пры тым, што на момант намінацыі 31 студзеня кнігі яшчэ не было — а, паводле Парадку, намінаваць аўтара можна толькі за кнігу, якая выйшла друкам. Такі вось парадокс, абумоўлены поўнай адсутнасцю сувязі паміж прафесарам Нільсам і рэштай свету.

І, каб скончыць з Алексіевіч, верагодны Нобель якой яшчэ тыдзень таму давёў беларускую медыйную прастору да экстазу. Яе дакументальная проза — праца на мяжы літаратуры, найноўшай гісторыі і антрапалогіі. І менавіта літаратурны складнік яе кніг, на маю думку, — не наймацнейшы. А прафесар Нільс, як дыктуюць яму тэстамент Нобеля і традыцыі Шведскай акадэміі — аматар чыстай, без дамешкаў літаратуры. Такі вось гурман.

## Як прайсці ў бібліятэку

Я думаю, прафесар Нільс далучаецца да працы Нобелеўскага канвееру недзе напрыканцы сакавіка. У паветры Скандынавіі нарэшце пачынае пахнуць вясной, на носе светлы Вялікдзень — і настрой у прафесара Нільса самы святочны. Задача шматлікіх нобелеўскіх экспертаў на гэтым этапе — выкшталтаваць лонг-ліст прэміі з прыкладна 15–20 прозвішчаў.

На гэтым этапе прафесар Нільс — часты госць Нобелеўскай бібліятэкі. Установы, у якую з усяго свету сцякаюцца кніжныя навінкі як на мове арыгіналу, так і ў перакладах. Бібліятэка — асноўны рэсурс, якім кіруецца Шведская Акадэмія.

Хоць у Парадку прэміі ясна прапісана, што, зацікавіўшыся пісьменнікам, эксперты Камітэту самастойна арганізуюць пераклад патрэбных твораў на даступныя прафесару Нільсу мовы, здаровы сэнс падказвае іншы расклад. Якасныя і адэкватныя арыгіналу пераклады прыхільнікам пісьменніка трэба забяспечваць самім, і вельмі загадзя.

Перад тым, як намінаваць вартага літаратара на Нобелеўскую прэмію, пажадана даслаць у Нобелеўскую бібліятэку некалькі асобнікаў розных выданняў яго твораў як доказ іх высокай мастацкай якасці. І, пажадана, у некалькіх асобніках, каб не выйшла так, што прафесар Нільс змагаецца з прафесарам Б'ёрнам за права прачытаць адзіны наяўны ў Нобелеўскай бібліятэцы асобнік геніяльнай кнігі.

І тут вынікае чарговы канфуз з беларускімі намінантамі. Так, на момант намінацыі на Нобеля Уладзіміра Някляева ў 2012 годзе ў каталогу бібліятэкі на сайце nobelbiblioteket.se не значылася ніводнай яго кнігі. Цяпер значыцца адна — зборнік «Окно» ў перакладзе на рускую мову. Лепш ідуць справы з іншым колішнім намінантам ад Беларусі — Рыгорам Барадулінцам — восем пазіцый, у тым ліку даступныя пераклады яго паэзіі на польскую і англійскую мовы.

Святлана Алексіевіч — 26 пазіцый на рускай, англійскай, нямецкай, шведскай, французскай мовах. Алесь Разанаў — чатыры пазіцыі па-беларуску і па-нямецку. Гульню з пошукам ахвочыя могуць працягваць бясконца.

Пры тым, што Нобелеўская бібліятэка існуе не толькі дзеля прэміі (хоць і дзякуючы ёй). Яна даступная шырокаму колу чытачоў і ўспрымаецца спецыялістамі як адна з самых поўных у свеце датабаз мастацкай літаратуры.

## Кніжнае лета

Самы салодкі момант у працы Нобелеўскага камітэту — канец траўня. Тады шведскія гуманітарыі калегіяльна афармляюць шорт-ліст прэміі з пяці-шасці прозвішчаў. Не зацікаўленыя ў розгаласе ці шоў, яны па-ранейшаму працягваюць трымаць імёны намінантаў у сакрэце і нават прыдумляюць ім сакрэтныя мянушкі (з таго, што вядома — Гаральд Пінтар фігураваў як «Гары Потэр»). Прыдумляць мянушкі пісьменнікам, безумоўна — любімы занятак прафесара Нільса.

Пасля гэтага, пішацца ў Парадку, акадэмікі выпраўляюцца на вакацыі са спісам літаратуры на лета. Іх задача — азнаёміцца з творчасцю пяці намінантаў, каб прагаласаваць за аднаго з іх увосень.

Я жыва ўяўляю сабе летні адпачынак прафесара Нільса. У загарадным дамку, пафарбаваным у сурык, ён сядзіць на падворку, які толькі што абкасіў газонакасілкай, і выконвае «хатняе заданне». Чытае кнігі.

Паміраючы, прафесар Нобель хацеў зрабіць нейкую добрую справу, за якую б яго вечна памяталі. Таму ён перапісаў тэстамент, загадаўшы ператварыць усю сваю рухомую і нерухомую маёмасць у капітал і абарачаць яго так, каб аўтарытэтныя навуковыя ўстановы Швецыі ды Нарвегіі штогод распараджаліся сумай, дастатковай для пяці (цяпер — шасці) шчодрых грашовых узнагародаў. Такім чынам, ужо стагоддзе як Нобелеўская прэмія мае дастатковае фінансавае забеспячэнне і не залежыць ад прамысловага, выдавецкага ці палітычнага лобі. Гэта справа купкі навукоўцаў, якія выконваюць апошнюю волю «дынамітнага караля» — а значыць, кіруюцца ідэаламі гуманізму, уласцівымі людзям у канцы XIX стагоддзя. І таму ў пачатку стагоддзя XXI яны, як выглядае, не супадаюць з актуальнымі ім рэаліямі. Ім і не трэба супадаць. І ў гэтым я страшэнна зайздрошчу прафесару Нільсу. Бо сёння гэты высокаадукаваны спадар кіруецца толькі ўласнымі ведамі і густам, за якія яго будуць судзіць праз паўстагоддзя, калі, паводле Парадку, рассакрэцяць архівы.

## Вялікі літаратурны калайдар

Беларуская літаратура існуе на кніжнай мапе Еўропы і заўважная ў суседніх краінах, у тым ліку праз перамогі ў прэміях: прэмія «Еўрапейскі паэт свабоды» для Уладзіміра Арлова ў 2010 годзе, шведская прэмія Курта Тухольскага для Уладзіміра Някляева ў 2011-м, зноў жа, дзве польскія і адна нямецкая прэміі для Святланы Алексіевіч... Але гэта нічога не значыць для беларусаў. Беларусам патрэбны толькі Нобель. Чаму?

Можа, таму, што праз сваю закансерваванасць у часе, незалежнасць ад знешніх фактараў, «Нобелеўка» сама сабой зрабілася знакам якасці? Нейкім сертыфікатам — маўляў, ты дасягнуў поспеху ў сваёй сферы? Маўляў, твая нацыя дасягнула поспеху? Хоць усялякая згадка пра нацыю рашуча супярэчыць ідэі Нобелеўскай прэміі…

У сваёй нястрымнай мары пра Нобеля беларусы забываюць пра тое, што прэміі не даюць за прыгожыя блакітныя вочы і ільняныя валасы. Возьмем нобелеўскіх лаўрэатаў па фізіцы–2013: міжнародная група вучоных атрымала ўзнагароду за тое, што доказала існаванне «часцінкі Бога» — базону Хігса. Навукоўцы тлумачаць, што адкрыццё гэтае грандыёзнае — але звычайнаму чалавеку абсалютна не патрэбнае. Ніякіх новых тавараў і «паляпшайзераў», якія прадставіў бы сусветнаму спажыўцу базон Хігса, на рынку не прадбачыцца. Веда пра гэтую часцінку ўсяго толькі мяняе ўяўленне чалавека пра Сусвет. Адстой — і не кажыце. Пры гэтым пабудова Вялікага адроннага калайдару, з дапамогай якога ў 2012 годзе ўдалося адкрыць гэты самы базон, каштавала Швейцарыі 4,5 мільярда еўра.

Я зазіраю ў вокны нашых універсітэцкіх лабараторый, слухаю прамовы нашых чыноўнікаў ад навукі — і не бачу нават памкнення фінансаваць інавацыйныя распрацоўкі, якія не прынясуць прыбытку тут і цяпер. І адсюль раблю выснову, што Нобелеўская прэмія не ўваходзіць у прыярытэты беларусаў.

Здавалася б, іншая рэч — літаратура. Пляценне карункаў, прыгажосць, выцягнутая з пустэчы, прарошчаная са смецця — галоўнае не замінаць аўтару і трываць яго творчыя дзівацтвы — на выхадзе гэта ну гарантавана дасць Нобеля. Але і тут для поспеху неабходны які-ніякі, а калайдар.



Шведская акадэмія заснаваная Густавам III у 1786 годзе. Асноўны занятак — нармаванне шведскай мовы для захавання яе «чысціні, сілы і тонкасці». З 1901 года прысуджае Нобелеўскую прэмію па літаратуры

## Нобелеўскі лаўрэат: інструкцыя зборкі

Дык як жа дасягнуць запаветнай мары — беларускага Нобеля па літаратуры?

Па-першае, прэміі па азначэнні не можа выйграць той, каго на яе не намінавалі. Часам здаецца, мы толькі менцім языкамі, замест таго, каб заняцца справай: скласці тэкст па-англійску, даслаць стосік кніг у Стакгольм… Забываемся, што нобелеўскую намінацыю, паводле Парадку, трэба паўтараць штогод «пакуль аўтар не атрымае прэміі або не памрэ». Многія эксперты дваццаць год запар дасылалі заяўкі ў Нобелеўскі камітэт, перш чым іх пратэжэ перамаглі.

Па-другое, мы забываемся, што Нобелеўская прэмія — гэта не Еўрабачанне, не спаборніцтва нацый, а ацэнка найлепшых спецыялістаў у той ці іншай сферы. Таму важна не толькі самім намінаваць свайго аўтара, але і расказаць свету пра тое, што беларускі пісьменнік — выдатны, атрымаць падтрымку экспертаў за мяжой — у тым ліку і ў выглядзе намінацыі. Інакшай беларускую заяўку вокамгненна скасуюць за «нацыяналізм».

Па-трэцяе, прарываючыся з беларускага кантэксту ў «свет цэлы», без дзяржаўнай падтрымкі літаратуры, мы ў выніку будзем мець «казус Набокава». Заходнія выдаўцы зацікавяцца толькі тымі беларускімі пісьменнікамі, якія маюць камерцыйны патэнцыял. А камерцыйны патэнцыял — кепска для Нобеля. Спансуючы пераклады нашай якаснай літаратуры на замежныя мовы са сродкаў дзяржавы, прэзентуючы беларускіх пісьменнікаў з выгоднага боку не толькі масаваму чытачу ў іншых краінах, але і міжнароднай акадэмічнай супольнасці, мы раней ці пазней зробім нашых вартых літаратараў прэцэдэнтнымі не толькі ў Беларусі, але і ў свеце.

Бо — што да вакацый прафесара Нільса — я і так штогод маю іх у Беларусі, на дзедавым хутары. Лета, пчолы, ганак пад вінаградам, добрыя беларускія кнігі. Мне — цалкам дастаткова.



ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ТРЭЦІ МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС ДАСЛЕДЧЫКАЎ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**На працягу апошняга дзесяцігоддзя беларусістыка стала папулярнай тэмай даследавання ў шматлікіх краінах. Даследуецца не толькі багатая гістарычная мінуўшчына Беларусі, але і наша няпростая сучаснасць.**



Фота аўтара

Адзін з галоўных арганізатараў кангрэсу Русціс Камунтавічус

11–13 кастрычніка 2013 года на базе Універсітэта Вітаўта Вялікага ў Коўне ўжо ў трэці раз адбыўся Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі. У гэтым годзе гасцямі форума сталі амаль 400 навукоўцаў з розных краін.

## Ад ВКЛ да Другой сусветнай вайны

На адкрыцці Кангрэсу пасол Літвы ў Беларусі Эвалдас Ігнатавічус пажадаў навукоўцам не пужацца дыскутаваць і абмяркоўваць самыя спрэчныя пытанні. А пытанняў і тэмаў было сапраўды шмат. Усяго было запланавана правядзенне 14 навуковых секцый, з якіх, безумоўна, варта вылучыць гістарычны блок. Гісторыя ВКЛ, Беларусь у складзе Расійскай імперыі, фармаванне нацыянальнай ідэнтычнасці, рэлігійныя традыцыі — гэтыя тэмы актыўна абмяркоўваліся як беларускімі, так і замежнымі гісторыкамі.

У прыватнасці, прафесар Вячаслаў Швед прысвяціў свой даклад аналізу барацьбы беларусаў і палякаў за адраджэнне Рэчы Паспалітай у канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзя. Як вядома, у гэты перыяд адбылося Паўстанне 1794 года, Вайна 1812 года і Паўстанне 1830–1831 гадоў. Усе гэтыя ўзброеныя канфлікты (у тым ліку і ўдзел беларусаў у вайне з Расійскай імперыяй на баку Напалеона) былі скіраваны на адраджэнне старажытнай беларускай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага.



Выступае прафесар Эгідзіюс Александравічус

У сваю чаргу, іншы гродзенскі даследчык Андрэй Ціхаміраў звярнуў увагу на праблему заходнерускай ідэалогіі. Не сакрэт, што гэтая ідэалагічная плынь, якая паўстала яшчэ ў канцы XIX стагоддзя, на сённяшні дзень з'яўляецца адной з найбольш небяспечных праяў антыбеларускіх сіл у нашай краіне. Вялікая ўвага была нададзена разгляду гісторыі Беларусі ў XX стагоддзі. Шведскі даследчык Матс Дэланд з Універсітэта Упсалы прысвяціў свой даклад асвятленню паваеннага лёсу сяброў зондэркаманды Арайса, якая падчас вайны дзейнічала ў акупаваным нацыстамі Мінску. Некаторыя з вайсковых злачынцаў, у тым ліку былы кіраўнік латвійскай крымінальнай паліцыі, а пазней афіцэр СС Аляксандр Озалінш, пазбеглі судовага пакарання і дзякуючы «халоднай вайне» былі аднесены да ліку «барацьбітоў з бальшавізмам».

У сваю чаргу, украінскі даследчык Андрэй Катлярчук, які працуе ў шведскім Універсітэце Садэрторна, распавёў пра даследаванне гісторыі нацысцкіх злачынстваў супраць цыганскага насельніцтва і захаванне памяці пра гэтую старонку гісторыі ў постсавецкіх дзяржавах.

## Пра «паноў», голад і навуковую тэрміналогію

Гісторык Віталь Быль з Беларусі прадставіў і ахарактарызаваў успаміны работнікаў апошніх уладароў Нясвіжскага замку. Як вядома, і Альбрэхт Радзівіл і яго брат Лявон былі выдатнымі гаспадарамі, якія не толькі сачылі за захаваннем і развіццём сваёй маёмасці, але і за тым, каб іх працоўныя жылі ў дастатку. Архівіст Ірына Кашталян распавяла пра мала вывучаны ў айчыннай гістарыяграфіі сюжэт, звязаны з паваенным голадам на тэрыторыі БССР. Значным плюсам гэтага дакладу было тое, што даследчыца ўдала спалучыла аналіз архіўных дакументаў і ўспаміны жыхароў беларускіх вёсак і мястэчак, што дазволіла скласці поўную карціну той трагедыі, якая адбывалася ў савецкай Беларусі ў 1946–1947 гадах.

Прафесар Вальдэмар Рэзмер з Торуньскага ўніверсітэта спыніўся на аналізе таго, якія тэрміны выкарыстоўваюцца ў польскай і замежных гістарыяграфіях для характарыстыкі вераснёўскіх падзей 1939 года. Паводле яго меркавання, акрэсленне гэтага паняцця ўскладняецца тым, што Польшчы давялося, па сутнасці, весці дзве вайны: з Трэцім Рэйхам і Савецкім Саюзам. Дарэчы, у расійскай гістарыяграфіі, у прыватнасці ў працах Міхаіла Мельцюхова, для характарыстыкі «вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну» выкарыстоўваецца тэрмін «савецка-польская вайна 1939 года».

У сваю чаргу, беларускі даследчык Анатоль Трафімчык прааналізаваў праблему генезісу паняцця «Заходняя Беларусь» і падкрэсліў неабходнасць працягу вывучэнне гісторыі дзейнасці прадстаўнікоў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў 1920–1930-я гады на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай.

## Новыя выданні

Акрамя навуковых секцый падчас кангрэсу адбылася прэзентацыя шэрагу цікавых гістарычных прац. Прафесар з Японіі Макота Хаясака прадставіў сваю манаграфію «Гісторыя Памежжа: разважанні над мінулым Беларусі». Па прызнанні самога даследчыка, галоўнай мэтай гэтай кнігі з'яўляецца жаданне прадставіць японскаму чытачу нарыс гісторыі Беларусі.

Яшчэ адной прэм'ерай Трэцяга міжнароднага кангрэсу даследчыкаў Беларусі стала кніга Севярына Віславуха «Нацыянальныя адносіны на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў». Справа ў тым, што гэтая праца была напісана яшчэ перад Другой сусветнай вайной, аднак так і не была выдадзена. Аўтару манаграфіі ўдалося правесці глыбокі аналіз нацыянальных працэсаў, якія адбываліся на тэрыторыі Віленскага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў міжваеннай Польшчы. «Найбольш цікавым з'яўляецца тое, што Севярын Віславух крытыкаваў палітыку польскіх уладаў у дачыненні да нацыянальных меншасцяў. Меnavіта таму гэтая цікавая манаграфія доўгі час не была выдадзена», — адзначыў падчас прэзентацыі кнігі прафесар Універсітэта ў Аполлі Мікалай Іваноў.

Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі паступова пераходзіць з разраду звычайнай канферэнцыі на ўзровень буйнога навуковага форуму, на якім абмяркоўваюцца напрацоўкі беларусістаў з розных краін і выпрацоўваюцца падыходы да далейшага навуковага асэнсавання беларускай мінуўшчыны, сучаснасці і будучыні.

ТЭЛЕБАЧАННЕ

# ПРА МОВУ, ЗА МОВУ

**«Дыяблог пра мову з Навумам Гальпяровічам» — так называецца новая праграма, якая стала выходзіць на тэлеканале «Беларусь 3».**

Пытанні функцыянавання беларускай мовы ў грамадстве, яе гісторыя і сённяшні дзень, праблемы моўнага навучання ў школе, роля роднай мовы ў духоўным развіцці чалавека — на гэтыя і іншыя пытанні вядучы спрабуе знайсці адказ у тых, для каго мова ёсць неадменным атрыбутам у штодзённым ужытку, — людзей розных узростаў і прафесій. Сярод іх вучоныя і настаўнікі, спартсмены і мастакі, студэнты і журналісты, медыкі і хатнія гаспадыні.

Навум Гальпяровіч і яго госці таксама адказваюць на пытанні інтэрнэт-карыстальнікаў, бо інфармацыйны партнёр праграмы — партал TUT.BY, на якім размешчаны блог аўтара.



Навум Гальпяровіч

Сярод тых, хто ўжо ўзяў удзел у гаворцы, член-карэспандэнт НАН Аляксандр Лукашанец, амерыканскі прафесар Курт Вулхайзер, выкладчык БДУ Віталь Макарэвіч, першы намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім. Плануюцца сустрэчы таксама з прафесарам з Лондана Арнольдам Макмілінам, членам прэзідыума Беларускага фонду культуры Тадэвушам Стружэцкім, намеснікам дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Алесем Сушам, выкладчыкам БДУ Данатам Яканюкам, магістрантам Інстытута журналістыкі Мікітам Найдзёнавым, мастакамі Міколам Бушчыкам і Рыгорам Сітніцам і іншымі.

АБ'ЯВА

**21 кастрычніка**

(панядзелак)

у межах кампаніі «Будзьма»

адбудуцца

**заняткі гістарычнай школы з Алегам Трусавым**

**«Гісторыя ў падзеях і малюнках»**

Пачатак — 18. 00 гадзін

Румянцава, 13

Уваход вольны

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1277

Падпісана да друку 18.10.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.